№ 32 (241) 6 жніўня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ХАЛЕРА НАС НЯ ВОЗЬМЕ

**У Расеі – халера. Як засьцерагчыся ад яе? Ці пагражае яна Беларусі? Ці можна езьдзіць цягнікамі, што ідуць цераз Казань? Гісторыя хваробы.**

Старонка 4.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Ганчарык - Лукашэнка – 26:29

*Вынікі апытаньня грамадзкае думкі, праведзенага на замову «НН»*

30 ліпеня — 1 жніўня сацыялягічная служба інфармацыйнай кампаніі БелаПАН "Люстра" на замову нашай газэты апытала 500 менчукоў ад 18 гадоў і старэйшых. Анкетаваньне ладзілася па гарадзкой квотнай выбарцы (г.зн., што доля людзей пэўнага полу, веку, з пэўным узроўнем адукацыі сярод апытаных адпавядала іхнаму працэнту ў насельніцтве). Памылка выбаркі магла быць толькі вельмі нязначная — менш за 1%.

Вынікі апытаньня — у табліцы справа.

А.Лукашэнка па-ранейшаму застаецца самым папулярным прэтэндэнтам, але ягоны рэйтынг не расьце. У Менску ён як вагаўся ўсе апошнія гады між 25 і 30%, такім і застаецца. Відаць, тое самае і ва ўсёй краіне, адно што агульнанацыянальны рэйтынг папулярнасьці А.Лукашэнкі звычайна вышэйшы за сталічны недзе на 15%.

У.Ганчарык за 10 дзён пасьля абвяшчэньня яго адзіным кандыдатам ад шырокай антылукашэнкаўскай кааліцыі рыўком выйшаў у Менску на другую пазыцыю пасьля А.Лукашэнкі, скараціўшы адрыў ад першага прэзыдэнта да мінімуму. "Лэйбл" адзінага кандыдата спрацаваў. Але й "незалежніцка-дэмакратычны" электарат ня вырас. Ён як складаў у Менску 30—35%, так і складае. Можна меркаваць, што ён застаецца стабільным і ў цэлым у краіне, толькі што там ён на дзясятак працэнтаў ніжэйшы, чым у сталіцы.

Цікава, што іншае апытаньне, праведзенае "Люстрам" на мінулым тыдні, паказала: 24% менчукоў лічаць сілавыя структуры датычнымі да шэрагу гучных палітычных зьнікненьняў-забойстваў. Рыхтык лічба выбарцаў Ганчарыка.

С.Домаш саступае Ў.Ганчарыку ў Менску няшмат, улічваючы, што ён ужо 10 дзён як прыпыніў уласную кампанію. Яшчэ мацнейшыя пазыцыі Домаша ў рэгіёнах. Не таму, што патэнцыял даверу да яго ў сталіцы быў меншы: проста шмат у нас іншых дэмакратычных палітыкаў, чыя папулярнасьць практычна абмяжоўваецца менскай кальцавой дарогай. Гэтак, генэрал Казлоўскі сабраў у сталіцы 36 тыс. подпісаў з 79 тыс. прызнаных сапраўднымі агулам (усе лічбы колькасьці подпісаў, прызнаных сапраўднымі, папярэднія, бо канчатковыя стануць вядомыя толькі на гэтым тыдні), бізнэсмэн Ю.Данькоў — 62 з 78 тыс., праваслаўны С.Калугін — 57 з 94 тыс., дыплямат М.Марыніч — 70 з 95 тыс., а аграрнік А.Ярашук — аж 51 з 73 тыс.! (Апошнія лічбы ўскосна сьведчаць, што гэтыя кандыдаты карысталіся не абы-якой падтрымкай менскае выканаўчае вэртыкалі, а мо й Ярмошына.). За З.Пазьняка ў Менску падпісаліся 39 з 72 тыс. ва ўсёй краіне. Парадаксальна, але Домаш у сталіцы заняў толькі 12-е месца сярод кандыдатаў па колькасьці сабраных подпісаў. Ва ўсіх астатніх рэгіёнах ён быў або другі пасьля Лукашэнкі (Горадня, Гомель), або трэці (у Берасьці пасьля Ганчарыка, у Віцебску пасьля Гайдукевіча). У Менску ж Домаш сабраў толькі 30 тыс. подпісаў проці 31 тыс. Чыгіра, 42 тыс. Ганчарыка і г.д. Цікава, што прапорцыя галасоў, сабраных у Менску за Домаша і Ганчарыка, амаль да дзясятай долі адсотка паўтарае прапорцыю між лічбамі іхных рэйтынгаў у апошнім апытаньні. Па-за сталіцай, асабліва на Гарадзеншчыне, дзе Домаш нашмат апярэджаў Ганчарыка па папулярнасьці, ён, відавочна, і цяпер застаецца яшчэ папулярным. Гэта паказьнік і ўдалага выбару кандыдатуры не менчука Домаша, і ягонае асабістае сымпатычнасьці, і добрае арганізаванасьці выбарчых цэнтраправіцы, якія за ім стаяць. Відаць, гэтая палітычная сіла мае добрую пасьлявыбарчую пэрспэктыву.

Галасы сымпатыкаў Домаша ў выпадку ягонага няўдзелу разьмяркоўваюцца наступным чынам: пакуль толькі палова зь іх (6,9%) гатовая перадаць галасы адзінаму кандыдату ад "пяцёркі". 1,7% — г.зн., трохі больш за дзясятую частку, пераходзяць да Лукашэнкі. Відаць, тыя, хто або ня любіць прафсаюзаў, або аддае перавагу маладзейшаму (ці "мацнейшаму" кандыдату). 1% галасоў Домаша перабягае да Гайдукевіча — тыя, хто ня хоча галасаваць за цяперашнюю ўладу, але й не за Ганчарыка; і прыкладна трэцяя частка прыхільнікаў Домаша вагаецца ў выбары.

У С.Гайдукевіча шанцаў на перамогу мала. Размытасьць пазыцыі — ні за, ні супраць Лукашэнкі — забясьпечвае гарантаваную жменю галасоў, але ў сытуацыі, калі краіна расколатая якраз у асабістым стаўленьні да першага прэзыдэнта, лібэрал-дэмакрат зьбірае ня больш за 10%. На гэтых выбарах змагацца будзе не Гайдукевіч, а тыя, хто будзе за Гайдукевіча: хто ўрэшце перацягне яго ныя галасы.

Працяг на старонцы 2.





**1. 9 верасьня 2001 г. у Беларусі павінны адбыцца прэзыдэнцкія выбары. Будзеце Вы ці ня будзеце браць у іх удзел?**

| | |
|---|---|
| Так, буду | 80,4% |
| Не, ня буду | 11,2% |
| Цяжка адказаць | 8,4% |

**2. Калі ў прэзыдэнцкіх выбарах 9 верасьня будуць браць удзел чатыры пералічаныя ніжэй кандыдаты, за каго зь іх Вы прагаласуеце?**

| | |
|---|---|
| За С.Гайдукевіча, старшыню Лібэральна-дэмакратычнай партыі | 8,3% |
| За Ў.Ганчарыка, старшыню Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай | 19,6% |
| За С.Домаша, старшыню рады Гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня "Ратуша" | 14,1% |
| За А.Лукашэнку, прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі | 27,7% |
| Супраць усіх | 10,5% |
| Цяжка адказаць | 19,8% |

**3. Калі ў прэзыдэнцкіх выбарах 9 верасьня будуць браць удзел тры ніжэй пералічаныя кандыдаты, за каго зь іх Вы прагаласуеце?**

| | |
|---|---|
| За С.Гайдукевіча, старшыню Лібэральна-дэмакратычнай партыі | 9,3% |
| За Ў.Ганчарыка, старшыню Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай | 26,5% |
| За А.Лукашэнку, прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі | 29,4% |
| Супраць усіх | 10,5% |
| Цяжка адказаць | 24,3% |

**4. Калі ў прэзыдэнцкіх выбарах 9 верасьня будуць удзельнічаць пяць ніжэй пералічаных кандыдатаў, за каго зь іх Вы прагаласуеце?**

| | |
|---|---|
| За С.Гайдукевіча, старшыню Лібэральна-дэмакратычнай партыі | 8,0% |
| За Ў.Ганчарыка, старшыню Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай | 20,0% |
| За С.Домаша, старшыню рады Гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня "Ратуша" | 14,0% |
| За А.Лукашэнку, прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі | 27,6% |
| За Л.Сініцына, віцэ-прэзыдэнта грамадзкага аб'яднаньня "Сацыяльныя тэхналёгіі" | 1,8% |
| Супраць усіх | 10,0% |
| Цяжка адказаць | 18,6% |



## Фэст на $10,000.0

**Рэпартаж Анатоля Клешчука з фэсту сьвятой Эўфрасіньні ў Саўт-Рывэры, адным з найбольшых пасяленьняў беларусаў у Новым сьвеце.**

Старонка 5.

## Айцец



**8 жніўня спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэньня айца Аляксандра Надсана — беларускага сьвятара, дзеяча культуры, дасьледчыка, пісьменьніка і перакладчыка.** Імя а.Аляксандра зьвязанае для нас з захаваньнем беларускай культуры на Захадзе, там, дзе былі і ёсьць асяродкі беларуская культурнага і рэлігійнага жыцьця. Апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў замежжа, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Скарыны ў Лёндане, адзін з заснавальнікаў і дзейны сябар Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, віцэ-старшыня Ангельска-Беларускага таварыства, рэктар Беларускае каталіцкае місіі ў Лёндане — гэта толькі пасады, дый яшчэ ня ўсе.

Айца Аляксандра Надсана, апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў замежжа, карціць назваць Беларускім Далай-Ламам. Зразумела, гэта неэтычна. Але грубае параўнаньне дапамагае зразумець, хто ён такі для Беларусі: духоўны лідэр нацыі.

Працяг на старонцы 8.

ТЭМА НУМАРУ

## Эўрапейскі Картаген

*Каралявец-Калінінград-Кёнігсбэрг і ягоная будучыня*



Каралявец адметны ў шэрагу гарадоў-прыйдаў, зьнішчаных заваёўнікамі дарэшты: ён руйнаваўся не з налёту, не пад гарачую руку, а мэтадычна — нібыта хтосьці ставіў пачварны экспэрымэнт. І насамрэч, пасьля вайны саветы атрымалі ўнікальную магчымасьць папросту ў лябараторных умовах праверыць слушнасьць і трываласьць сваёй ідэалёгіі.

Працяг на старонцы 6.



**У наступным нумары "НН"**

## ДВА ТВАРЫ УГА ЧАВЭСА

**Эсэ Габрыэля Гарсія Маркеса аб прэзыдэнту Вэнэсуэлы, лацінаамэрыканскім Лукашэнку**



# БТ у чаканьні

**На мінулым тыдні новы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Валеры Скварцоў прыняў «бунтаўшчыкоў» – прадстаўнікоў прафбюро Дырэкцыі пэрспэктыўнага вяшчаньня.** Уважліва выслухаў прэтэнзіі да кіраўніцтва тэлеканалу, пачытаў заяву, паабяцаў разабрацца, прапанаваў падаць яму магчымы сьпіс новай мастацкай рады БТ і канкрэтныя прапановы па зьмяненьні сеткі перадачаў. Прафбюро падрыхтавала сьпіс з 21-й асобы. Сярод іх — паэт і былы старшыня БТ Генадзь Бураўкін, старшыня Саюзу пісьменьнікаў Вольга Іпатава, тэлерэжысэр Віктар Шавялевіч, журналіст Зьміцер Падбярэскі. Таксама «пэрспэктыўныя» супрацоўнікі прапануюць аддаць ім цэлы суботні этэр — пад аўтарскія праграмы, жывыя ток-шоў і г.д.

У той гучнай заяве былі яшчэ патрабаваньні стварыць для кантролю за дзейнасьцю НДТРК Назіральную раду і праверыць фінансавыя справы кіраўніцтва, найперш Рыбакова з Хрусталёвым. Прафбюро сьцьвярджае, што за перадачы, якія каштуюць ад сілы 10 мільёнаў рублёў, БТ плаціла недзяржаўным тэлекампаніям 60 мільёнаў. Пра верагодныя фінансавыя махінацыі Скварцоў адправіў «наверх» *дакладную запіску*. А наконт Назіральнае рады й без кансультацыяў зь «верхам» адказаў: «Пакуль ня будзе».

**Арцём Лук'яновіч**

## Спорт

### Вучыцца бегаць ды скакаць

**У пятніцу ў Эдмантане (Канада) узяў старт чэмпіянат сьвету па лёгкай атлетыцы. Гэтыя спаборніцтвы – адна з самых важных падзеяў спартовага году.**

Найлепшага выніку на чэмпіянатах сьвету нашыя спартоўцы дамагліся ў 1993 г. у Гётэборгу (Швэцыя). Там яны заваявалі два залатыя мэдалі ды два срэбныя і занялі другое каманднае месца, адразу за зборнай ЗША.

Потым у нашай лёгкай атлетыцы быў спад, але вынікі Алімпіяды-2000 дазваляюць спадзявацца, што гэты спад скончыўся. Менавіта лёгкаатлеты заваявалі для Беларусі два залатыя мэдалі з усіх трох.

Якія шанцы маем на гэты раз, сказаць цяжка. Найбольшая надзея – на жанчын, а яны ж тым і харошыя, што непрадказальныя.

Лепш за ўсё мы выглядаем у сілавых дысцыплінах, але іх усяго чатыры (штурханьне ядра, кіданьне молату, дзіды й дыску). Да таго ж у бегавых дысцыплінах адзін і той самы чалавек можа, напрыклад, бегчы 100 і 200 мэтраў, ды яшчэ й эстафэту і, адпаведна, мае больш шанцаў на мэдалі ды балы, чым штурхальнік ядра ці кідальнік дзіды – бо ў сілавых дысцыплінах якое-небудзь сумяшчэньне немагчымае.

Так што, калі мы хочам быць прыкметнай лёгкаатлетычнай дзяржавай, трэба вучыцца бегаць ды скакаць. А чаму, урэшце, мы павінны тут адставаць? Што, у Амэрыцы пры 40 градусах трэніравацца лягчэй?

Аптымізм надаюць вынікі чэмпіянату Эўропы для юніёраў, што адбыўся ў Грасэта (Італія). Тут мы атрымалі тры залатыя мэдалі (больш толькі ў чатырох камандаў — Расеі, Вялікай Брытаніі, Польшчы й Нямеччыны, столькі сама яшчэ ў Румыніі). Золата для нас узялі скакун у вышыню Андрэй Чубса, кідальніца дзіды Галіна Кахава ды штурхальніца ядра Натальля Харанэка (дарэчы, таксама прыгажуня, як і Яніна Карольчык). Цалкам сэнсацыйнае срэбра ўзяў Аляксандар Мікалайчук на дыстанцыі 10000 мэтраў.

Такім чынам, "хварэем" за нашых. Відовішча мае быць куды больш займальнае, чым футбольны матч "Славія"–"Інтэр" (Браціслава), дзе было двойчы 0:1 без асаблівых шанцаў для мазыранаў.

**A.U.**

## З усёй краіны

### Не шкада на "Шкоду"

**Адным зь першых крокаў нядаўна прызначанага старшыні Івацэвіцкага райвыканкаму Аляксандра Няхаева было рашэньне аб набыцьці зухаватай "Шкоды-Актавіі".** Аўтамабіль куплены на бюджэтныя сродкі. Няхаева не спыніла ні цана аўтамабіля (каля 15000 даляраў), ні тое, што Івацэвіцкі раён – адзін з самых адсталых у вобласьці, ні тое, што ў райвыканкамаўскіх гаражах шмат "Волгаў" ды "Масквічоў", якія варта толькі падрамантаваць.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

### "Масквіч" пад іншамарку

**Дзіўная аварыя адбылася ў Мядзеле.** Адзін чалавек прыехаў у Мядзельскую больніцу на старэнькім, зь дзясятых рук купленым "Масквічы", паставіў яго ля варотаў дый пайшоў сабе на працэдуры. А транспартны сродак засумаваў, відаць, без гаспадара, рыпнуў і пакаціўся сам сабою ўніз па дарозе — вядома, мясьціна якая, то з гары, то на гару. "Масквіч" даехаў да скрыжаваньня, дзе трапіў пад колы іншамаркі. Ёй нічога — хіба бампэр пагнуўся трохі, а дзядзьку давядзецца сваймy карчу ўвесь бок назад выгінаць... Адсюль выснова: калі на тармазы не спадзяешся, вазі з сабою цаглiну дый падкладай пад кола.

**Сяргей Мікулевіч, Будслаў**

### Грошы для палякаў

**Саюз Палякаў Беларусі распачаў у суботу збор грошай для ахвяраў паводкі, ад якой церпіць Польшча.** Прозьвішчы ахвярадаўцаў будуць надрукаваныя ў газэце *«Głos znad Niemna»*.

**Я.З.**

### Дні сьмерці пісьменьніц

**30 ліпеня памерла Анэля Тулупава, аўтарка зборнікаў вершаў "Станцыя надзей", "Дабрадзея", "Босая цішыня", "Сонца ў хату", "Скажыце ўсім", кніжак для дзяцей. Было ёй 63 гады. А сябры днямі адзначылі гадавую па Ніне Чарнейцы, якая памерла летась 28 ліпеня, у 33-гадовым веку ў Жодзіне. Сьветлая памяць.**

## Навіны гаспадарскія

### Маладэчанскі трубны — Строеву

**Урад зрабіў папярэдні эканамічны пагноз на наступны год.** Ён мала розьніцца ад сёлетняга – інфляцыя мусіць складаць 20%, рост ВУП — 4,5%, а сярэднія заробкі — блізу 135 даляраў ЗША. Адно да 220 мільярдаў рублёў вырасьце дэфіцыт бюджэту. Праўда, усе сёлетнія паказчыкі засталіся адно ў плянах. І інфляцыя ў рэальнасьці большая, і рост ВУП меншы, і заробак існуе толькі ў галовах прапагандыстаў.

**Старшыня Нацбанку Пракаповіч адказаў расейскаму Цэнтрабанку, што абвінаваціў быў Беларусь у спэкуляцыі расейскім золатам.** Паводле ягоных словаў, амаль 100-адсоткавая купля расейскага золата нашым Нацбанкам сталася вынікам беларускіх інвэстыцыяў у здабычу каштоўных мэталаў. Сёлета такія інвэстыцыі склалі 15 млн. даляраў, а у 2002 г. яны павялічацца ўдвая.

**Маладэчанскі трубны завод цяпер не беларуская ўласнасьць.** Свае пазыкі Наваліпецкаму мэталюргічнаму камбінату прадпрыемства сплаціла кантрольным пакетам акцыяў. Расейцы хочуць укласьці грошы ў мадэрнізацыю заводу і павялічыць выраб сталёвых трубаў у 2—3 разы.

**Амаль кожнае пятае будаўнічае прадпрыемства ў Беларусі можна лічыць банкрутам.** Найперш гэта тлумачыцца скарачэньнем крэдытаў на жыльлё і попыту на будаўнічыя матэрыялы. Сёньня 70% кватэраў насельніцтва краіны мусіць аплачваць з уласнай кішэні. У чэрвені пры сярэднім заробку 85 даляраў цана квадратнага мэтра дасягала 180—200 даляраў.

**24 жніўня ў Менску пачне працаваць новая станцыя мэтро — "Магілёўская"** (на дарозе ад унівэрмагу "Беларусь" да Шабаноў). Гэта будзе першая станцыя, адмыслова прыстасаваная для інвалідаў. Іншая справа, што ехаць з той станцыі ім ня будзе куды.

**Сяржук Іваноўскі**

### Зубныя шчоткі з заводу "Форд"

**Адкрыты чатыры гады таму завод «Форд» пад Менскам цяпер выпускае зубныя шчоткі.** Рабочыя пры такой працы тутака не атрымлівалі заробку зь лютага. Новыя гаспадары вывозяць высокатэхналягічнае абсталяваньне, а замест яго прывозяць старыя станкі. Работнікі ўзбунтаваліся ды напісалі скаргу. Дзяржкантроль пачаў праверку, але, як запусьціць прадпрыемства, ня ведае.

**Б.Т.**

# Ганчарык-Лукашэнка–26:29

Працяг са старонкі 1.

Сініцын, які ўсё яшчэ дамагаецца рэгістрацыі, застаецца аўтсайдэрам. І гэта ў Менску, дзе ён сабраў ільвіную долю подпісаў і дзе яго актыўна рэклямавалі FM-станцыі (з 83 тыс. подпісаў, прызнаных сапраўднымі, на Менск у яго прыходзіцца 38 тыс., тады як у Ганчарыка – 42 з 119 тыс., у Домаша – 30 з 159 тыс., у Гайдукевіча – 32 з 130 тыс., у Лукашэнкі – 64 з 392 тыс.). Бяда Сініцына і Гайдукевіча — іхная нехарызматычнасьць.

З усяго гэтага відаць, што Ганчарык ужо мабілізаваў большасьць дэмакратычных выбарцаў, але значная частка домашаўцаў яшчэ вагаецца.

Між тым, каля чвэрці беларусаў увогуле ня вызначыліся з сваімі палітычнымі сымпатыямі. Каля 10% ня вырашылі, ці пойдуць на гэтыя выбары. Пад 15% ведаюць, што пойдуць, але не ўяўляюць, за каго галасаваць. Ім і Лукашэнка ня любы, і апазыцыя не прывабная. Барацьба ў апошні месяц прэзыдэнцкае гонкі пойдзе за гэтае «балота». Яе спэцыфіка ў тым, што гэтая частка насельніцтва апалітычная, і ні гучныя скандалы, ні пытаньні дзяржаўнага ўладкаваньня яе не цікавяць.

У Ганчарыка задача складанейшая, чым у Лукашэнкі. Бо ж яму прыйдзецца весьці змаганьне ня толькі за апалітычную частку выбаршчыкаў, але і за тую частку сьвядомых антылукашэнкаўцаў, якія дагэтуль сумняюцца ў самім Ганчарыку.

**Барыс Тумар**





## Лісты ў рэдакцыю

### Лукашэнка ў Бараўлянах

**Вось гісторыя, якую мне распавяла 60-гадовая вясковая цётухна, якую паклалі ў анкалягічным шпіталі ў Бараўлянах у адну палату з маёй маці. Яна акурат ляжала ў Бараўлянах, калі туды наведаўся Лукашэнка.**

Слухала яна Лукашэнкаву прамову дый ня ўтрымалася: "Скажыце, таварыш прэзыдэнт, чаму ў нашай клініцы гэтак дрэнна зь лекамі? Шмат моладзі пакутуе на анкалягічныя хваробы, трэба яе ратаваць!" Лукашэнка ёй адказвае: "Ня трэба, цётка, ратаваць моладзь. Гэта скрозь наркаманы, што ў сутарэньнях сядзяць. Нашую моладзь мы ўжо згубілі. Ратаваць трэба такіх, як ты, – сталых, заслужаных людзей!"

"Хай бы падняўся на дзявяты паверх ды паглядзеў, якія "наркаманы" ў хіміятэрапіі ляжаць", – плача цётка.

Во такі чалавек называе сябе "нашым прэзыдэнтам".

**Ю.А., Менск**

### Зянон не маўчыць

**Да рэплікі Алеся Кебіка ("НН", №30, 2001).**

Шаноўны дружа, расплюшчы вочы! Ты скардзішся на тое, што няма інфармацыі ад Пазьняка, што той маўчыць. Няўжо ты не заўважыў, што не Зянон маўчыць, а пра яго маўчаць? Не кажу ўжо пра апошнія некалькі гадоў, дастаткова згадаць мінулы месяц. Ідзе збор подпісаў, а ў гэтак званай "апазыцыйнай" прэсе шматлікія інтэрвію з Крыжаноўскім, Даньковым, Сініцыным і г.д. Здаецца, толькі іх падтрымлівае дэмакратычны электарат, і толькі яны ведаюць, як перамагчы Лукашэнку. У гэты вырашальны час, за ўвесь вызначальны пэрыяд адна адзіная "Наша Свабода" сустрэлася з Пазьняком, каб распытаць пра ягоныя пляны. На гэтым і скончылася. Вядома ж, дзе Пазьняк, там грошы ня шэпчуць і грантаў не даюць.

І добра б замоўчвалі Пазьняка... Колькі лаянкі пачуў ён у свой адрас, колькі брахні сказалі нам пра яго. Зянон, аказваецца, разбуральнік і ўсюды шукае ворагаў, а з Лукашэнкам яны ўвогуле браты-блізьняты. Таму й "Беларусь для беларусаў", як патлумачыў адзін з пяцёркі, гэта "ідыёцкі лёзунг". А замест яго, калі ласка, спн.Гразнова прапанавала нам "галоўную нацыянальную беларускую ідэю – Беларусь без Лукашэнкі" ("Народная Воля").

Дык адкуль тут возьмецца нешта пра нацыянальна арыентаванага лідэра? Якое дзівацтва чакаць гэтага ад газэтаў, у якіх пра незалежнасьць, як кажуць, на понюх кату. Яны раскручваюць новых інтэгратараў, і калі мы, сапраўдныя патрыёты Беларусі, не схамянемся, то будзем потым цераз раз дыхаць. Ужо зараз Пазьняка, а значыцца, і ўсіх нас, ласкава папярэджваюць са старонак нібы дэмакратычных выданьняў: "Няўжо Зянон Станіслававіч не разумее, што народ Беларусі ў большасьці сваёй за інтэграцыю з Расеяй?.. Час нацыянальнай рамантычнай палітыкі прайшоў. Надышоў час палітыкаў-прагматыкаў. І з гэтым пара прымірыцца" ("Дзень").

Вось так, Алесю, а ты кажаш – сэктанцтва.

**Сяржук Аржанцаў, Клімавічы**

**Ад рэдакцыі.** "НН" прасіла Зянона Пазьняка аб гутарцы, ён адмаўляўся. У яго свае прынцыпы і свая стратэгія, ды яна ня спраўдзілася. Дарма Вы кляйміце Зянона каляніяльным таўром "нацыянальна-арыентаванага палітыка". Ніякі ён не "нацыянальна-арыентаваны", а проста нармальны беларускі палітык.



### Ганчарык — гэта Кебіч

**Сёньня дэмакратычныя сілы Беларусі ў пэўнай разгубленасьці.** Старая партнамэнклятура абвясьціла Ганчарыка адзіным кандыдатам на прэзыдэнта ад шырокай кааліцыі. КРДС ня здолела вылучыць адзінага кандыдата ад дэмак-

# За каго галасаваць?

**Гэтым летам у Беларусі ўсе гавораць пра выбары і кожны сутыкаецца з пытаньнем, за каго галасаваць. Пытаюцца ў мяне сваякі, старыя знаёмцы, выпадковыя спадарожнікі. Асабіста я для гэтага прыдумаў такое клішэ-адказ: згадайце пра свае асабістыя задумкі або мары на бліжэйшы год альбо пяць гадоў; разважце, што вам для зьдзяйсьненьня тых плянаў спатрэбіцца, і ўявіце, ці рэальна гэта пры цяперашняй уладзе. Дасьведу такога жыцьця, як цяпер, у нас ужо 7 гадоў. Калі рэальна — галасуйце за працяг, калі не — за альтэрнатыву.**

**Якія ж нашы пляны на год ці пяць гадоў?**

**Аляксандар Старцаў, галоўны нештатны псыхатэрапэўт Менску**: Мая галоўная мэта на пяць гадоў — зьнізіць колькасьць самагубстваў сярод беларусаў. Пераманіць стаўленьне людзей да псыхатэрапэўтаў. Людзі баяцца зьвярнуцца да доктара са сваімі душэўнымі праблемамі, бо думаюць, што іх зачыняць у "дурдом" і будуць карміць таблеткамі да поўнага зьнішчэньня асобы, а потым нікуды не ўладкуешся на працу, не атрымаеш вадзіцельскіх правоў. Хоць псыхіятрыя і псыхатэрапія — розныя рэчы. У нашай краіне ёсьць сетка псыхатэрапэўтычных кабінэтаў амаль пры кожнай буйной паліклініцы, у Менску іх 23.

**Аляксандар Бухвостаў, лідэр Партыі Працы**: Як палітык, хацеў бы паўдзельнічаць у нармальных мясцовых і парлямэнцкіх выбарах. Гэта было б магчыма пры вяртаньні да Канстытуцыі 1994 г. З творчых плянаў — хачу напісаць кнігу пра гісторыю рабочага руху ў сьвеце з 1985 г. да сёньня.



**Зьміцер Саўка, мовазнаўца:** За 5 год пляную разам з аднадумцамі стварыць унівэрсальную электронную базу беларускай лексыкі. У ідэале — сабраць усе-ўсенькія беларускія словы.

**Аляксандар Памідораў, рок-музыка:** Запісаць што-небудзь і выдаць прыстойна. Не супольны праект, а сваё нешта, уласнае. Зрабіць рамонцік у хаце і даехаць, нарэшце, да свайго лецішча, на якім ня быў ужо гады два. Выйграць якую-небудзь гучную судовую справу. Безумоўна, выйграць у лятарэю. Ну, і адчыніць шынок.



**Захар Шыбека, галоўны рэдактар часопісу "Спадчына":** У часопісе я зьбіраюся надрукаваць сваю гісторыю Беларусі XIX—XX ст. Яе ніхто не захацеў надрукаваць — ні дзяржава, ні прыватныя фундатары, бо гэта сумная гісторыя яшчэ жывога мінулага, жорсткая праўда і пра рэвалюцыйны рух, і пра нацыянальнае адраджэньне, якая не спадабаецца ні савецкім людзям, ні патрыятычна настроеным.

**Андрэй Федарэнка, пісьменьнік:** Напісаць дзіцячую аповесьць. Можа быць, працяг «Шчарбатага талеру». У жыцьцёвых плянах яшчэ й вынікі гэтых выбараў паўплываюць. Ад выніку, можа быць, прыйдзецца кудысьці зьяжджаць. Бо, калі давядзецца жыць тут, дык для гэтага трэба мо будзе ламаць і псыхалягічнае жыцьцё, і нават фізычнае. Можа, зьехаць у вёску. Можа, зьехаць увогуле за межы...

**Ігар Кузьняцоў, гісторык:** Мара — выдаць маю найважнейшую працу — "Гісторыя рэпрэсіяў: 1917—2001 г.". Кніга на 800 старонак, у ёй я дасьледаваў рэпрэсіі ў Савецкім Саюзе й Беларусі.

**Мікалай Маторанка, галоўны рэдактар крычаўскай газэты "Вольны горад":** Няма ў мяне ніякіх плянаў. Крымінальная справа па абвінавачаньні супрацоўнікаў нашай газэты ў захопе міліцыянта ў закладнікі яшчэ не закрытая.

**Юры Данькоў, бізнэсовец:** Вы зьдзівілі мяне ў Швайцарыі. Я прыехаў у Цюрых на перамовы з фундатарамі, якія маглі б даць грошай на перабудову цэнтру Менску ў раёне вуліцаў Цэткін, Калектарнай, Нямігі. На тым месцы, дзе былі старыя габрэйскія могілкі, я хачу паставіць помнік ахвярам рэпрэсій XX ст., а на горцы, якая цяпер пустуе — міні-*city*, забаўляльны горад. Яшчэ я зусім нядаўна заклаў фірму "Квартал-цэнтар", якая займаецца выдавецкай дзейнасьцю, гуртавым гандлем і пошукам нафтапрадуктаў для Беларусі. Я не зьбіраюся кідаць і свайго казыно.



**Галіна Бандажэўская, жонка Юр'я Бандажэўскага, зьняволенага былога рэктара Гомельскага мэдінстытуту:** Я сябе вельмі кепска адчуваю. У мяне вялікае гора. Жыцьцё спынілася, я нічога ня ведаю. (Плача).

**Ларыса Шутко, кіраўніца Беларускага Жаночага Альянсу:** Мэта нашае арганізацыі — прывесьці 17—18 жанчынаў у парлямэнт наступнага скліканьня і падрыхтаваць кандыдатку ў прэзыдэнты на наступныя прэзыдэнцкія выбары.

**Ксёндз Уладыслаў Завальнюк, пробашч касьцёлу Сьв.Сымона й Алены:** У мяне грандыёзныя пляны на гэты год, аднак я не хачу іх адкрываць. Умовы мяняюцца штодня. Вось патэлефануйце праз месяц, я Вам усё адкрыю.



**Лявон Вольскі, рок-музыка:** Можа, за год будзе нейкая такая кавярня "Мроя", дзе я буду раз на тыдзень мяшаць кактэйлі, разьліваць піва і абшчацца з народам. Гэта даволі-ткі вар'яцкая ідэя, але ў прынцыпе зрабіць можна. Творчы плян — шыкоўнае выданьне анталёгіі "Мроі" для калекцыянэраў. Ад самых паганых аматарскіх запісаў да самых апошніх. І каб было як трэба — у кардоне, з залатым цісьненьнем. Такая спадчына музычна-культурная: збор усяго, што зроблена.

**Міхал Анемпадыстаў, рок-паэт:** Няма жыцьцёвых плянаў, няма творчых. Ёсьць нейкія задумы, але іх нельга назваць плянамі. Ну, можа быць, адзіны сур'ёзны плян, які можна ў гэтай сытуацыі паспрабаваць выканаць, — гэта плян эміграцыі зь Беларусі. Бо тут ведаеш — што трэба рабіць, якія дакумэнты зьбіраць. А плянаваньне нейкіх астатніх рэчаў, яно ж будзе ўвесь час натыркацца на нейкія дадатковыя праблемы. Плянаваньне іншых рэчаў — бессэнсоўнае.

**Віктар Шніп, паэт:** Выдаць «Сабачыя гісторыі». Яшчэ, калі ня сёлета, дык у наступным годзе, адпачыць нармальна. А то ўсё працуеш, працуеш... Хацелася б пабыць у вёсцы. Цэлы месяц. Паглядзець, як красуюць кветкі. Бо ў горадзе сядзіш сярод гэтага каменьня — пораў году не адрозьніваеш. А ў вёсцы ўсё яркае, усё жывое. Усё наша.



**Генадзь Сагановіч, гісторык:** Вось нядаўна здаў у друк нарыс гісторыі Беларусі. Што ў прынцыпе й не было працай для задавальненьня. Адпрацоўка. І цяпер адчую такую радасьць, простa хмель ад свабоды. Урэшце бяруся дарабляць "кніжку пра барадачоў" — пра Тэўтонскі ордэн і Беларусь. Хачу штогод па кнізе тоўстай выдаваць. Наступная кніга будзе пра Хмяльніччыну ў Беларусі. А потым — кніга пра Смуту ў Беларусі. Мне хочацца абсалютна іншыя ракурсы знайсьці ў гісторыі. А яшчэ хачу ўцячы ад гэтай мітусьні і начытацца. Раптам адчую цяпер рэальнасьць гэтай даўняй-даўняй патрэбы. Зьбіраюся тую гару літаратуры, у якую склаў самыя патрэбныя кнігі, перачытаць. Яшчэ хочацца давесьці да ладу хату. Наведаць сябра ў Нью-Ёрку... Ужо ёсьць дастаткова досьведу ў галаве, хапае таго, што было патрэбна. І адно толькі — уцякаць ад мітусьні. І тварыць.

**Ева Вежнавец, пісьменьніца:** Я хачу яшчэ адно дзіця. І хачу напісаць кніжку сярэдняй велічыні, старонак на сто, прысьвечаную пачатку тысячагодзьдзя ў Беларусі, жыцьцю жанчын у Беларусі. Натуральна, я хачу, каб у мяне была машына й я навучылася яе вадзіць. Яшчэ — вывучыць ангельскую мову, давесьці да ладу сваю нямецкую. На ўсё гэта трэба час, разуменьне мужа і грашовыя сродкі. Якія я пляную сама й зарабіць.



**Валеры Костка, падпалкоўнік КДБ у адстаўцы, былы памочнік Г.Карпенкі:** Я стаўся прафэсійным пчаляром, фэрмэрам. У найбліжэйшую пяцігодку я замахнуўся пабудаваць рай на ўласным кавалачку зямлі. У палітыку вяртацца пакуль не пляную.

**Мы апыталі розных вядомых людзей пра іхныя пляны. Усе вядомыя людзі ў той ці іншай ступені творцы. Любы чалавек — у той ці іншай ступені творца. Як творца, кожны з нас будзе выбіраць таго кандыдата, пры якім лягчэй будзе тварыць. А ствараць лягчэй, калі маеш ясную будучыню, сыстэму каардынат. Усё, больш нічога ня трэба. Гэтае ўпэўненасьці ў будучыні дастаткова, каб чалавек-творца адчуў сваю запатрабаванасьць і пісаў свае аповесьці, прадаваў свой марынаваны часнык або будаваў свае бізнэс-цэнтры на сусьветным узроўні. Калі ж гэтага ўсяго няма, тады панікае галавою і творца, рухавік прагрэсу, і ва ўсім разьвіцьці настае паўза, якая пагражае грамадзтву мутацыямі. Мутацыі закранаюць культуру працы і культуру адносінаў між людзьмі, і культуру палітыкі. Урэшце мутацыі дабіраюцца і да мараль.**

**На маю думку, менавіта такое становішча склалася ў нас за апошнія сем гадоў. Сем гадоў газэты называюць Філіпа Кіркорава зоркай айчыннай эстрады, у тэлевізары — лацінаамэрыканскія страсьці з водарам кавы, на FM — суцэльная Брытні Сьпірс. Такія вось дасягненьні ў галіне культуры ў шырокім яе сэнсе. За гэты самы пэрыяд у суседняй Польшчы стварылі чатыры нацыянальныя спадарожнікавыя тэлеканалы, у Расеі — каналы НТВ, «Культура» і яшчэ сотні нацыянальных і мясцовых, звычайных, кабельных і спадарожнікавых тэлестанцыяў.**

**Проста выбіраць на ўзроўні канкрэтнага чалавека. У прынцыпе, яшчэ прасьцей — на ўзроўні цэлай краіны.**

**Апытваў Зьміцер Бартосік**

---

ратычных сілаў, перамогу атрымала аморфная структура — "шырокая кааліцыя прагрэсіўных сілаў".

Фактычна, у 2001 г. былая партнамэнклятура і зьнясіленыя эсдэкі прапануюць згуляць у гульню, якая была б дарэчы ў 1994 г. Вось падтрымалі б Кебіча, і не было б Лукашэнкі. Толькі замест Вячаслава Францавіча прапануецца Ўладзімер Іванавіч.

Але вывесьці краіну да лібэральнай эканомікі можа толькі правацэнтрыст з камандай эканамістаў-лібэралаў. І фантастычны прагноз — перамога Ганчарыка — будзе пазначаць толькі пагібель дэмакратычных сілаў у Беларусі.

У гэтых варунках адмова шаноўнага Домаша ісьці да канца ёсьць гарантыяй паразы ўсіх дэмакратаў. Існуе яшчэ шмат довадаў, каб Сямён ішоў на выбары, але вось самы галоўны: яму паверылі 160 тыс. выбарцаў. Змагаймася і пераможам!

**Міхась Лагор, Гарадок**

**Ад рэдакцыі.** Друкуючы гэты тыповы для апошняга тыдня ліст, "НН" заклікае выбарцаў да цярпеньня і адказнасьці. Расчараваньне выклікана келейнасьцю, зь якой вярхі апазыцыі прымалі сёлета рашэньні. Аднак рашэньне "пяцёркі" прынятае, кідацца з боку ў бок не выпадае. Пабачым, што надумаў Лукашэнка і як сябе праявіць Ганчарык. Час пакажа.

## 10 гадоў – 10 гітоў

**Беларуская Музычная Альтэрнатыва** рыхтуе новы альбом **"10 гадоў – 10 гітоў"**, які выйдзе 25 жніўня – на 10-я ўгодкі наданьня Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі статусу канстытуцыйнага закону. БМАgroup зьвяртаецца да чытачоў "НН" з просьбай вызначыць 10 найлепшых песьняў дзесяцігодзьдзя (1991—2001), па адной на кожны год. Пажадана асобна падаваць рокавы й бардаўскі гіт-парады. Пажадана, каб адзін гурт (бард) займаў у сьпісе ня больш за тры пазыцыі. Свае варыянты адсылайце **на адрас: а/с 5, 220085, Менск (з пазнакай "10–10").**

## Зьненавідныя "сьвядомыя"

**Чытаў "Белорусскую газету" за 23 ліпеня і 1000-ы нумар "БДГ". У першай напісана: "Для БНФ, впрочем, Чигирь был не до конца "сьвядомым". Фронтовцам больше приглянулся вытащенный из политического забвения Семен Домаш".**

Падпісана — "отдел расследований". У другой аўтар газэты Валеры Ляўкоў, апавядаючы пра збор подпісаў за кандыдатаў у прэзыдэнты, піша: "Если судить о сборщиках подписей, то, как ни странно, в массе своей они... похожи на своих лидеров. Идейные — Калякина, демократичные — Домаша и Гончарика, бдительные — Кононовича, "сьвядомыя" — Позняка".

Як у першым, так і ў другім выпадку непрыемна ўразіла выкарыстаньне слова "сьвядомы". Пакорпаўся ў нядаўніх газэтах і знайшоў такі фрагмэнт з артыкулу Сямёна Букчына ў "Народнай волі": "В Беларуси националы пытаются привить "спадар", "спадарыня". Некий белорусский вариант русского — "сударь", "сударыня". Но не прививается. То есть между собой "национально ориентированные" употребляют...".

Яшчэ раней былы старшыня партыі "Славянский собор "Белая Русь", а цяпер начальнік Азаронка на тэлевізіі Мікалай Сяргееў пісаў у "Народнай газэце": "В течение всего XX столетия т.н. "национал-сьвядомыя" пытались лишить белорусов их общерусских корней". Напярэдадні сёлетняга Дня Волі ў перадачы "Тайные пружины политики" Азаронак і яго "творчая група" ўжыла выраз "сьвядомыя аборигены". Пачатак ужываньню ўзятага ў двукосьсі слова "сьвядомы" паклала заява Лукашэнкі на сустрэчы зь беларускімі пісьменьнікамі ў жніўні 1998 г.: "БНФ по языковому признаку поделил людей на "сьвядомых" и "несьвядомых".

Цікава ня столькі тое, *каго* маюць на ўвазе аўтары публікацыяў і перадачаў, а падставы таго, *чаму* ўжываюць такія ўвогуле неакрэсьленыя азначэньні *"национал"*, "сьвядомы".

Апошнім часам я заўважыў, што побач са "сьвядомай" часткай нашага народу, а таксама "несьвядомай", што жыве сабе ў Беларусі, працуе, думае, як зарабіць, як пракарміць сям'ю, пашыраецца яшчэ адна катэгорыя грамадзянаў, якія зусім "сознательно" перасталі ўспрымаць Беларусь сваёй краінай. Жывучы тут, у беларускай сталіцы, кожны дзень ходзячы на працу, нават пішучы матэрыялы пра палітычныя падзеі, можна быць бясконца далёкім ад Беларусі. Першы раз я зьвярнуў увагу на людзей, якія выключаюць сябе зь беларускага культурнага і палітычнага кантэксту, падчас збору подпісаў у выбарчай кампаніі 1999 г., што праводзіў Ганчар. Тады некаторыя жыхары ў адказ на прапанову прыняць удзел у выбарах заяўлялі: "Мы в эти игры не играем" — і давалі зразумець, што яны дыстанцыююцца ня толькі ад беларускай палітыкі, але і, па магчымасьці, ад любых праяваў грамадзкага, культурнага жыцьця Беларусі. Кола такіх асобаў пашыраецца. Балазе, дзяржава гэтаму спрыяе. Можна гадамі жыць тут, слухаючы радыё "Би-Эй", "Русское радио", "Альфа-радио", гледзячы ОРТ, РТР ці яшчэ тузін расейскіх каналаў, чытаць "Комсомольскую правду", "Частный детектив", "Труд", "Спид-инфо" і яшчэ не адну сотню расейскіх часопісаў і газэт і не задумвацца пра існаваньне нейкай Беларусі, а тым больш, пра яе мову, гісторыю, палітыку. (Ёсьць адно выключэньне: пра Беларусь успамінаюць у сувязі з прагнозам надвор'я.)

І ўсё-ткі, калі-нікалі спакой парушаецца: то беларускія палітыкі пра сябе гучна заявяць, то па расейскай тэлевізіі выступіць Васіль Быкаў, а то проста ў краме хтосьці папросіць прадаўца "Калі ласка...".

Тады з падсьвядомасьці ўсплывае, што і ты сын гэтай зямлі, што і твая маці размаўляла на беларускай мове, а ты пасьля школы па-беларуску ніводнага радка не прачытаў. У краіне беззаконьне і бязладзьдзе, а ты збоку холадна назіраеш за гэтым, цябе гэта абыходзіць. Вось тады ўзьнікае раздражненьне ад таго, што парушаны твой душэўны спакой, і выліваецца на паперу слова "сьвядомы" з пагардлівым адценьнем.

**Валеры Палсьцюк, Менск**

**P.S. Ужо пасьля напісаньня гэтай нататкі, прачытаў у газэце "Беларускі Час" артыкул Генадзя Бураўкіна на гэтую ж тэму.**

## Байкот пад Лукашэнку

**На жаль, грамадзтва не заўважыла небясьпечную тэхналёгію ўлады. Гэта байкот выбараў, дакладней, мінімалізацыя зацікаўленасьці насельнікаў Беларусі самімі выбарамі.** Звычайна, заўсёды галасуюць пэнсіянэры, а гэта лукашэнкаўскі электарат. Вось яны, па завядзёнцы, прыйдуць, прагаласуюць. Астатнім убіваецца ў галовы формула-ўстаноўка: "Няма чаго хадзіць, усё адно выбары будуць сфальсыфікаваныя". Гэта дасягаецца найперш праз чуткі. Супрацоўнікі КДБ, міліцыі менавіта тое кажуць сваім знаёмым. Дзяржаўныя СМІ амаль не даюць інфармацыі пра выбарчую кампанію.

Прызначэньне выбараў на 9 верасьня — дакладна разьлічаны крок. Большасьць гараджанаў будуць бульбу капаць за горадам.

Дэмакратам застаецца толькі самаахвярна працаваць — тлумачыць людзям сытуацыю. Парадаксальна, але нават у Менску шмат хто лічыць, што дэпутаты Вярхоўнага Савету кіруюць і зараз, маюць пажыцьцёвыя льготы, а пра народ ня думаюць.

Дэмакратычная апазыцыя можа перамагчы, але толькі праз цяжкую самаахвярную працу і вышэйшы інтэлект. Шанец яшчэ ёсьць, болей можа і ня быць.

**Вітаўт Невядомы, Менск**

# Фэст на $ 10,000.0

Саўт-Рывэр — гарадок непадалёк ад Нью-Ёрку. Менавіта ў гэтым амэрыканскім паселішчы кампактна пражывае самая вялікая супольнасьць беларусаў-эмігрантаў. Беларускую мову на вуліцах Саўт-Рывэру пачуеш значна часьцей, чым у сталіцы Беларусі. Па сутнасьці, нашы землякі іншай мовай між сабой не карыстаюцца. Тутака ёсьць беларускі піўны бар, будынак беларуска-амэрыканскага грамадзкага цэнтру. І, самае галоўнае, — храм Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай.

У дзень сьвятой апякункі Саўт-Рывэру традыцыйна адбываюцца фэсты. Беларускі фэст зьбірае ўсіх жыхароў гарадку: палякаў, габрэяў, цемнаскурых... Сёлета мэтаю фэсту было сабраць грошы на росьпіс купалу і столі царквы. Сабралі амаль 10 тысячаў даляраў. У мінулыя гады грошы зьбіралі на дапамогу ахвярам Чарнобылю.

На сёлетнім фэсьце сьпявала заслужаная артыстка Беларусі (пакуль не Амэрыкі) Валянціна Пархоменка з мужам і дачкою — *"Trio Kazak Family"*.

Анатоль Кляшчук, фота аўтара



Зьлева зьверху: Кастусь Верабей

Справа зьверху: помнік змагарам за вольную Беларусь у Саўт-Рывэры







Валянціна Пархоменка сьпявае разам з дачкой і мужам





# Востраў Калінінград



**Гэты край падобны да расейскай выспы сярод Эўропы. Разам з тым, назваць яго расейскім проста немагчыма. Як немагчыма сказаць, як будзе называцца ягоная сталіца — Калінінград, Кёнігсбэрг ці Каралявец — праз 10 гадоў.**

Увесну 1225 г. на месцы прускага гарадзішча Твангстэ паўстае фартэцыя, закладзеная багемскім каралём Атакарам II сумесна з Ордэнам. Так пачалася гісторыя Кёнігсбэргу, поўная войнаў ды інтрыгаў. У свае залатыя часы ён быў удвая большы за Бэрлін і налічваў 40 000 жыхароў. У 1701 г., у часе каранацыі славутага Фрыдрыха Вільгэльма, які вызваліў край ад швэдаў ды заснаваў першую прускую ўзнагароду — Ордэн Чорнага арла, натоўпу раздалі 6 тысячаў залатых талераў, а на плошчы біў фантан белага й чырвонага віна. Расейцы, якія акупавалі Кёнігсбэрг у 1758 г., у часе сямігадовай вайны, не рабавалі яго: не дазволілі немцы, якіх шмат было тады сярод расейскага камандаваньня. Афіцэраў нават прымушалі наведваць лекцыі ва ўнівэрсытэце. У часе акупацыі норавы кёнігсбэржцаў зрабіліся вальнейшымі: яны пачалі паліць на вуліцах ды прызвычаіліся піць пунш. Расейцы ўрэшце мусілі сысьці, і Кёнігсбэрг умацаваўся настолькі, што ў 1808 г. прускі каралеўскі двор ды ўрад пераехалі туды зь места Мэмэлю. У 1871 г. у люстраной залі Вэрсалю прускага караля Вільгэльма I каранавалі на нямецкага імпэратара. А праз пяцьдзясят год, паводле новае Вэрсальскае дамовы, Прусію аддзялілі ад Нямеччыны Данцыскім калідорам...

Але паўз усе гэтыя чорныя й залатыя гады, ва ўсіх перамогах і паразах Кёнігсбэрг заставаўся Кёнігсбэргам — з каралеўскім замкам, са славутым унівэрсытэтам, з уласнай філязофскай школай. Ператварэньне яго ў штосьці якасна іншае адбылося пасьля прыходу саветаў.

26 студзеня 1945 г. пачалася аблога Кёнігсбэргу. Савецкія камандзіры меркавалі, што горад абараняе вялікая групоўка немцаў, ды адклалі штурм на 9 тыдняў. За гэты час падцягнулі каля 700 тысячаў салдатаў, 5 тысячаў гарматаў, 1500 самалётаў. Гэта ў 20 разоў перасягала патэнцыял нямецкага гарнізону. Гітлер не дазволіў эвакуявацца 110 тысячам мірных жыхароў места — загадаў абараняцца да немінучага канца. Але й тых, хто здолеў зьбегчы з гораду, таксама чакаў незайздросны лёс. Ноччу з 30 студзеня на 1 лютага савецкая субмарына патапіла пасажырскі ляйнэр “Вільгэльм Густлаф” з 6000 уцекачоў. Ураваліся толькі 876 чалавек, а капітана субмарыны зрабілі Героем Савецкага Саюзу. Увогуле ж за апошнія месяцы другой сусьветнай ва Ўсходняй Прусіі загінула 2,1 мільёны мірных жыхароў, а больш за 11 мільёнаў ацалелых неўзабаве расьцерушыліся па сьвеце.

Саветы не зрабілі з новых земляў саюзнай рэспублікі. Адразу пасьля вайны ў складзе РСФСР зьявілася Кёнігсбэрская вобласьць. Перайменаваньне ў Калінінград адбылося ў 1946 г. — такі сабе пасьмяротны падарунак “усесаюзнаму старасту”. З 1947 г. нямецкае насельніцтва пачалі вывозіць у савецкую акупацыйную зону ў Нямеччыне, каб не замінала будаваць тут расейскую вобласьць.

## РЭПІН ЗАМЕСТ МОЦАРТА

Каралявецкі край стаўся палігонам для перайменаваньняў. Саветы пераназвалі 219 мястэчак і вёсак, выяўляючы пэўную вынаходлівасьць ды цынічны гумар. Так, мястэчка Гэрмаў зрабілася Рускім, Грос пераклалі як Бальшакова і толькі Тэльманава — новая назва мястэчка Дыдлакэн — мела ў сабе нешта нямецкае.

Пераназывалі кожную вулку. Ня ўсім вуліцам пашанцавала за саветамі так, як Ротэнштайнштрасэ, якую літаральна пераклалі як “Краснокаменная”. Часьцей новыя назвы не адпавядалі старым. Вуліцу, што насіла імя заснавальніка бровару Шыфэрдэкэра, назвалі «Кровельной». А старажытнае найменьне вуліцы Альтэр Грабэн (Стары Роў) пераклалі як *«Староканавная»*. Пушкін зьмяніў Гётэ, Рымскі-Корсакаў — Штраўса, Рэпін — Моцарта. З гораду старанна рабілі расейскі абласны цэнтар — пазбавілі яго 20 плошчаў (засталося 5) ды танкамі расстралялі ў 1965 г. Каралеўскі замак. Дарэчы, у 1933-м нацысты таксама займаліся перайменаваньнямі — выкідалі габрэйскія ды летувіскія назовы.

Савецкая ўлада пачала змаганьне і з нацысцкай агітацыяй — надпісамі на сьценах, што заставаліся з 30-х гадоў ды заклікалі да барацьбы за ідэалы Райху. Іх замазвалі фарбаю, але савецкая фарба слабая, сплыла з дажджамі, і надпісы тыя зараз дзе-нідзе можна прачытаць. А на арцы мосту ля Заходняга вакзалу захавалася графіці “Галасуйце за Тэльмана!” — напамін пра колішнія выбары ў Райхстаг.

## 7,7% БЕЛАРУСАЎ

Сёньня ў Калінінградзкай вобласьці жыве 78,1% расейцаў. Беларусы складаюць першую па колькасьці “нацменшасьць” — 7,7%. Немцаў, паводле афіцыйных зьвестак, толькі 0,6%. Праўда, панятак “расеец” можа хаваць пад сабою самыя нечаканыя варыянты нацыянальнасьцяў. Доўгі час слова “немец” было тут пад негалоснай забаронай. У пасьляваенныя гады беспрытульнікаў часьцяком “зрусачвалі” ў дзіцячых дамох.

## ЛЕНІНГРАД — З КАРАЛЯВЕЦКАЕ ЦЭГЛЫ

На высьпе Кнайпгоф — у гістарычным цэнтры Караляўца, — якая цяпер завецца выспай Канта, засталіся адно парэшткі Катэдры. Толькі магіла вялікага філёзафа засьцерагла яе ад поўнага зьнікненьня. Справа ў тым, што з руінаў Кнайпгофа, разбуранага налётам брытанскае авіяцыі ў 1944 г., бралі матэрыял для адбудовы Ленінграду — цэгла, зробленая па тэўтонскай тэхналёгіі, была вельмі якасная, як і вулічны брук. Праз трыццаць гадоў не засталося ня толькі разбураных, але й больш-менш ацалелых будынкаў. Выспу ператварылі ў дэндрапарк з сацрэалістычнымі скульптурамі. Каралявецкі архітэктар Ігар Адынцоў са сваёй фірмай на нямецкія грошы адрэстаўраваў сабор, паглядзець на які прыяжджаюць каля 80 тысячаў турыстаў штогод. Ён прапануе таксама аднавіць старую забудову места, але савецкае пакаленьне месьцічаў працівіцца — не жадае разьвітвацца са звыклым паркам. Улады трымаюцца той самай думкі.

## РАСЕЙСКАЯ ЭЎРАПЕЙСКАСЬЦЬ

Дзяржаўныя чыноўнікі прыдумалі цікавы тэрмін для пазначэньня генэральнай лініі разьвіцьця Калінінграду — “расейская эўрапейскасьць”. То бок, жыць, як эўрапейцы, але ў складзе Расейскай Фэдэрацыі. Зрэшты, прыкладаў “эўрапейскага” жыцьця вакол Караляўца шмат. У 2003 г. у Эўразьвяз уступае Польшча, у 2005 — Літва, і Калініградзкая вобласьць будзе з усіх бакоў аточаная “сапраўднай Эўропай”. Эўрапейцы актыўна ўкладаюць грошы ў каралявецкія праекты — Данія дала каля 10 млн. даляраў, швэды дапамаглі 4 мільёнамі, а вось немцы ахвяравалі толькі 1 мільён.

Эўракамісія сфармулявала“Каралявецкую стратэгію”, якая будзе вызначаць уплыў пашырэньня Эўразьвязу на рэгіён. Эўрапейцы жахаюцца, як за саветамі ў Караляўцы занядбалі сыстэму водазабесьпячэньня ды каналізацыі, якая цяпер забруджвае добрую частку Балтыйскага мора. На рэстаўрацыю Эўрапейскі банк рэканструкцыі ды разьвіцьця разам са Швэцыяй і Даніяй даюць 57 млн. даляраў. Яшчэ адна праблема — адкуль Каралявец будзе браць электрычнасьць, калі Літва, чые электрастанцыі даюць яму ток цяпер, падлучыцца да энэргасыстэмы Цэнтральнай Эўропы праз Польшчу. Непакояць Эўразьвяз і СНІД ды сухоты, пашыраныя ў вобласьці. Існуе праблема харчаваньня — за саветамі была зьнішчаная ўнікальная дрэнажная сыстэма тамтэйшых палёў — калгасныя трактары павыварочвалі з глебы керамічныя трубкі, якія асушвалі занадта вільготныя палеткі. Усходняя Прусія, якая карміла ўсю Нямеччыну, цяпер залежыць ад імпарту прадуктаў. А калі Польшча ды Летува ўвядуць візы для расейцаў, жыхары анкляву ўвогуле застануцца ў ізаляцыі.

Калінінградзкі губэрнатар, былы адмірал Балтфлёту Ўладзімер Ягораў вінаваціць эўрапейскіх палітыкаў, якія, маўляў, згодныя дапамагчы толькі ў тым выпадку, калі вобласьць пачне працэс адлучэньня ад Расеі. Ён кажа, што паводле зьвестак афіцыйных апытаньняў, 95% калінінградцаў лічаць сябе расейцамі, і вобласьць павінна быць “расейскай і квітнеючай”. Цікава, што, паводле іншых зьвестак, 64% студэнтаў Калінінградзкага тэхналягічнага ўнівэрсытэту жадаюць новых эканамічных вольнасьцяў для рэгіёну, 24% бачаць свой край цалкам незалежным, і толькі 10% лічаць, што ён павінен застацца ў складзе Расеі.



**Уладзімер Ягораў**

## АНКЛЯЎ НА ЛАНЦУГУ

У Нямеччыне 2001 г. абвешчаны годам Прусіі. Праўда, афіцыйна немцы не сьпяшаюцца галасна казаць пра свае інтарэсы на Каралявеччыне — яны дужа баяцца абвінавачваньняў у рэваншызьме ды адраджэньні імпэрскіх амбіцый. А вось неафіцыйныя асобы робяць сьмялейшыя заявы. Напрыклад, экс-міністар замежных справаў Кляўс Кінкель кажа, што Нямеччына павінна прымаць актыўны ўдзел у справах рэгіёну, каб ягонае насельніцтва не згубіла даверу да немцаў. Цікавяцца Караляўцом і літоўцы — яны ўжо ўклалі грошы ці не ў 400 прадпрыемстваў вобласьці. Беларусы таксама маюць свой інтарэс у рэгіёне. Караляўчане ўжо наладжваюць паветраны калідор Калінінград — Беларусь. Але Крамлю не падабаюцца гэткія “заляцаньні” суседзяў да адміністрацыі анкляву. Калінінградзкую вобласьць плянуюць ператварыць у 8-ю фэдэральную акругу, зь непасрэдным падпарадкаваньнем Пуціну. На самакіраваньне, якое разьвівае пачуцьцё незалежнасьці, караляўчанам давядзецца забыцца — губэрнатара заменіць “*полпред*”.

## ШМАТ ЗБРОІ, МАЛА ГРОШАЙ

Каралявец няблага абаронены — адных танкаў там 850. “Тут, у рэгіёне разьмешчаныя 47 атамных электрастанцыяў, якія я са сваіх караблёў магу паразіць звычайнай зброяй з дакладнасьцю да трох мэтраў”, — хваліцца камандуючы Балтыйскім флётам віцэ-адмірал Уладзімер Валуеў. Аднак, калі са зброяй усё выдатна, дык з эканомікай наадварот. Жыцьцё ў вобласьці ўвесь час горшае. Тыя тры мільярды рублёў, якія Масква абяцае дадаткова пакідаць Караляўцу зь ягоных падаткаў, дапамогуць мала. Здаровы сэнс падказвае жыхарам, што незалежнасьць прынясе дабрабыт, зробіць з правінцыі нармальную эўрапейскую краіну. Жыхароў Караляўца, асабліва моладзь, даўно вабіць Эўропа — езьдзіць туды таньней, дый няма праблемаў з транзытнымі візамі. Але ідэя адраджэньня Ўсходняй Прусіі мае пакуль замала прыхільнікаў, каб штурхнуць Каралявец на шлях набыцьця незалежнасьці проста заўтра. Насельніцтва краю хутка зробіцца занадта бедным, каб надалей мець жаданьне належаць Расеі, але ўсё-ткі застанецца занадта расейскім, каб сьвядома назвацца прусамі.

**Алесь Кудрыцкі**

# Эўрапейскі Картаген

Працяг са старонкі 1.



**Каралеўскі замак да канчатковага разбурэньня**

Узяць нямецкі горад, пераназваць у гонар сталінскага блазна, расстраляць танкамі каралеўскі замак, зрабіць там месца актыўнага – зь півам у цэляфанавых пакетах – адпачынку гараджанаў, наставіць вакол бэтонных каробак, засяліць прыбышамі – таксама адарванымі ад родных мясьцінаў. Ці народзіцца ў такіх умовах доўгачаканы савецкі чалавек? Аднак, не заладзілася. Грае ўсё-ткі нейкую ролю энергэтыка места: сёньня заставацца расейцамі там хоча хіба начальства (дый тое згодна са службовымі абавязкамі), рэшта дрэнна сабе ўяўляе, кім жадае быць і ў якой краіне жыць...

Жорсткасьць, зь якой заваёўнікі зьнішчалі нават саму памяць пра “ўпартыя” гарады, заўжды выклікала адваротнае: спаленая Троя, пахаваная ў пясках Нінэвія, дашчэнту разбураны Картаген учэпіста сядзелі ў памяці нашчадкаў. Што характэрна — нашчадкаў тых самых заваёўнікаў. І прыходзіў час, калі ўдзельнікі “гераічных падзеяў” збольшага памíралі, рэаліі, якімі можна было б абгрунтаваць палітычную неабходнасьць або рэвалюцыйную мэтазгоднасьць зьдзейсьненага, адыходзілі ў нябыт, і тлумачэньняў кшталту “яны былі ворагамі” й “ды мы за вас сваю кроў...” ўжо не ставала, каб заглушыць у сабе пачуцьцё віны перад ненароджанымі насельнікамі зьнішчаных гарадоў.



**Танкі расстрэльваюць Каралеўскі замак**

Што праўда, з часам любыя дзеі продкаў набываюць рамантыка-гераічны арэол, у якім нам цяпер бачацца нават найбольшыя зладзействы сярэднявечча. Гэта такі своеасаблівы ахоўны мэханізм нашае псыхікі: цяжка было б адчуваць шматтысячагадовы цяжар сумленьня й адказнасьці. Тым больш, што сьпіс дасягненьняў гэткага кшталту несупынна папаўняецца. •

**Сяргей Мікулевіч**

# Юры Нуштаеў: “Адраджэньне Ўсходняй Прусіі”

*Гістарычныя сымбалі Ўсходняе Прусіі — чорны арол і чорна-белы сьцяг*



**Гутарка зь Юр'ем Нуштаевым, стваральнікам і рэдактарам Інтэрнэт-часопісу "Кёнігсбэрская Кроніка" (http://www.enet.ru/~kc).**

**“НН”: У якім стане цяпер працэс усходняпрускага адраджэньня?**

**Ю.Н.:** На жаль, сёньня няма ўсёабдымнае публічнае праграмы дзяржаўнага адраджэньня Ўсходняе Прусіі. Няма й зарэгістраваных арганізацыяў, якія б гэтым займаліся. Расейскае заканадаўства, што дзейнічае на нашай тэрыторыі, не дазваляе нам напоўніцу дэкляраваць свае мэты. Мы, актыўная частка кёнігсбэржцаў, разумеем пад адраджэньнем перш за ўсё абуджэньне *ўсьведамленьня* Ўсходняе Прусіі ў нашых суграмадзянаў. На жаль, пытаньне пра самасьвядомасьць дачаснае. Сёньня мы знаходзімся на этапе “хаджэньня ў народ”, намагаемся перадаць свой энтузіязм людзям навокал. Але, азіраючыся назад, можна сказаць, што, у параўнаньні зь ледзяной пустэчаю розумаў і думак у савецкі пэрыяд тое-сёе ўжо зроблена.

**“НН”: Ці адрозьніваецца пруская мова ад нямецкай?**

**Ю.Н.:** Варта адрозьніваць мову старажытных прусаў і ўсходняпрускі дыялект нямецкае мовы. Першая — старапруская — мова балцкіх плямёнаў — роднасная сучаснай літоўскай. У Літве нават намагаюцца аднавіць ды разьвіваць гэтую мову. Усходняпрускі дыялект нямецкае мовы, на які паўплывалі старапруская, летувіская, польская ды скандынаўскія мовы, заўважна адрозьніваецца ад літаратурнага варыянту. Гэты дыялект захоўваюць ды вывучаюць нашыя суайчыньнікі ў Нямеччыне.

Асноўныя мовы краіны будуць залежаць ад яе нацыянальнага складу. Пруская талерантнасьць — адна з асноўных нашых гістарычных каштоўнасьцяў. Расейская мова, пакуль тут жывуць яе носьбіты, ня можа сысьці са сцэны.

**“НН”: Ці шмат людзей у “Калінінградзкае вобласьці” гутарыць па-прускy?**

**Ю.Н.:** Непасрэдныя носьбіты дыялекту ва Ўсходняе Прусіі — даваенныя жыхары, якія выпадкова засталіся тут ці вярнуліся на радзіму. Крыху іх жыве ў Літве — гэта, у асноўным, усходняпрускія дзеці, што ўратаваліся пасьля вайны ў летувіскіх сем'ях. Адзінкі захоўваюць яго ў мазурскіх раёнах Польшчы.

**“НН”: Ці пагодзіцеся вы на аб'яднаньне зь Нямеччынаю?**

**Ю.Н.:** Аб'яднаньне зь Нямеччынаю ў кантэксьце гістарычнай сувязі й агульнаэўрапейскай эканамічнай ды культурніцкай інтэграцыі падаецца мне натуральным і пажаданым. Дадатковым стымулам і нагодай для такога аб'яднаньня можа стацца вяртаньне нашых прагнаных суайчыньнікаў. Але аб'яднаньне дзяржаўнае, палітычнае ў сёньняшніх умовах ня можа разглядацца сур'ёзна ні ва Ўсходняй Прусіі, ні ў Нямеччыне. Цяжка меркаваць, ці насамрэч Расея “здала” нас Нямеччыне. З пачатку акупацыі ў 1944 г. Масква разглядала Ўсходнюю Прусію выключна як пляцдарм дзеля пасоўваньня імпэрыі ўглыб Эўропы. Расея дагэтуль лічыць нас “ваенным трафэем”.

**“НН”: Якія вашыя адносіны з Балтыйскай Рэспубліканскай партыяй?**

**Ю.Н.:** Сёньняшнія пазыцыі БРП, што да неабходнасьці здабыцьця дзяржаўнасьці, умацаваньня грамадзянскае самасьвядомасьці, вяртаньня гістарычных назоваў і каштоўнасьцяў, інтэграцыі ў Эўропу, — складнікі ідэі адраджэньня Ўсходняе Прусіі.

**“НН”: Калінінградзкія ўлады варожа ставяцца да прускіх ідэяў?**

**Ю.Н.:** Казаць пра варожасьць ня варта. Патрэба перагляду адносінаў да гістарычнай спадчыны, неабходнасьць падвышэньня статусу тэрыторыі ды іншыя складнікі ідэі прускага адраджэньня фрагмэнтарна агучваюцца людзьмі ўлады. Праўда, робіцца гэта з каньюнктурных меркаваньняў. Увогуле, мясцовая ўлада — выключна прарасейская, яна хваравіта рэагуе на любыя погляды, адрозныя ад афіцыёзу, прасякнутага патасам “адвечнай еднасьці з Расеяй”.

**“НН”: Ці ёсьць у прусаў нацыянальны дэвіз накшталт “Жыве Беларусь!”?**

**Ю.Н.:** Пэўнай фразы пакуль няма. Мне здаецца, асаблівую афарбоўку ў сёньняшнім кантэксьце набывае дэвіз зь першага гербу прускай дзяржавы — “Кожнаму сваё”. Заўсёды жывымі застануцца словы з гербу “З намі Бог!”.

**Гутарыў Алесь Кудрыцкі**

# Як паехаць у Каралявец

**Сярод 97 найбольшых турыстычных агенцыяў Беларусі не знайшлося ніводнае, якая б займалася арганізацыяй паездкі ў Калінінград–Кёнігсбэрг–Каралявец. Аднак гэта нястрашна. Вядома, што індывідуальныя турыстычныя паездкі маюць свае вартасьці. Свабода, нязмушанасьць, адвольны выбар праграмы...**

**Самастойная паездка ў Каралявец будзе каштаваць прыкладна гэтулькі ж, колькі паездка ў Польшчу ці краіны Балтыі.**

**Найлепш ехаць цягнікам у асноўным, а не прычапным вагоне. Тады Вам ня трэба афармляць транзытную літоўскую візу. Калі ж паедзеце на аўтобусе, аўтамабілі альбо зь перасадкаю, давядзецца зьвярнуцца ў консульскі аддзел амбасады Летувы па візу. Дзеля яе патрэбнае запрашэньне або тэлеграма з Караляўца, пашпарт і каляровы здымак. Тэрміновая транзытная віза (туды–назад) робіцца суткі й каштуе 35 даляраў ЗША. Віза менш тэрміновая афармляецца за тыдзень і каштуе 15 даляраў.**

**Цягнік зь Менску ў Каралявец ідзе каля 11 гадзінаў. Квіток у купэ каштуе 28,5 тыс. беларускіх рублёў, пляцкарта – 18 тыс.**

**Два цягнікі "Масква–Калінінград" ідуць праз Воршу, Барысаў, Менск, Маладэчна штодзённа (у Менску а 5-й і а 22-й гадзінах). Па няцотных днях да іх дадаецца Гомель–Калінінград (адпр. зь Менску 22.26), па цотных – Санкт-Пецярбург–Калінінград, які ідзе праз Маладэчна, Полацак, Віцебск.**

**Калі зваротны квіток набываць у Караляўцы, ён абыдзецца ў 600 расейскіх рублёў (купэ).**

**Сярэднімі паводле камфорту й цэнаў лічацца гатэлі "Калінінград", "Дэйна", "Масква", цана нумароў у якіх вагаецца ад 15 да 30 даляраў за суткі. Напэўна, можна знайсьці таньнейшае прыватнае жытло ці гатэль.**

**Харчаваньне там каштуе прыкладна гэтулькі ж, як у Менску. Мора, па словах працаўнікоў консульства Беларусі, прывабнае, "відаць Швэцыю". Дарэчы, тэлефон нашага консульства (8-107011) 221-44-12. Надзвычай карысным можа быць таксама кантакт з каралявецкімі беларусамі, суполку якіх узначальвае энэргічны і жыццярадасны Ігар Шаховіч. Жыцьцё іхнае грамады надзвычай насычанае. Знаўцы кажуць, што канцэрты беларускіх сьпевакоў у іхным культурным цэнтры адбываюцца часьцей, чым у Гомелі ці Берасьці. Электронны адрас сп.Шаховіча siakera@mail.ru. Тэл. суполкі (8-1070112) 71-39-07.**

"НН" дзякуе прадстаўніцтву Беларусі ў Калінінградзе, консульскаму аддзелу Амбасады Летувы ў Беларусі, агенцыі "Смок" за прадстаўленую інфармацыю.



Ліст у рэдакцыю

# Мой Калінінград

**Пабачыўшы, што рыхтуецца калінінградзкі нумар "НН", захацеў падзяліцца сваімі ўражаньнямі ад спатканьняў з гэтым местам.**

На пачатку 70-х мой дзядзька працаваў кіроўцам турыстычнага аўтобуса і вазіў экскурсіі ў Хатынь, на Курган Славы, у Берасьцейскую крэпасьць. Іншы раз трохі далей – у Вільню, Палангу, Клайпеду. Аднойчы ён прапанаваў мне паехаць разам зь ім у Калінінград.

Калі мінулі Літву, я больш пільна стаў углядацца ў вокны аўтобуса. Упершыню я на свае вочы бачыў Усходнюю Прусію, сама назва якой заўсёды асацыявалася ў мяне з духам мілітарызму і агрэсіі. Я ехаў па краі незвычайнай гісторыі.

Нешырокія асфальтаваныя дарогі. Уздоўж – старыя дрэвы з абавязковай белай вапнавай стужкай, невялікія рачулкі, азёры, сажалкі. Надзвычай пышная расьліннасьць. Кажуць, усе лясы ў Калінінградзкай вобласьці штучныя, пасаджаныя рукой чалавека. Асаблівую ўтульнасьць, замілаваньне, нават нейкую ідылію ствараюць ахайныя дамкі пад чырвонай дахоўкай. Анічога расейскага ў пэйзажы, толькі на ўказальніках расейскія назвы вёсак – Малінаўка, Яблонеўка або Панкратаўка.

Сам Калінінград уразіў сваёй готыкай, рэшткамі старых муроў, фортаў, умацаваньняў. У той час у горадзе новага амаль нічога не будавалася. Быццам СССР усё яшчэ баяўся, што немцы запатрабуюць назад сваю тэрыторыю. Горад патанаў у зяляніне, ад паху ружаў кружылася галава. Нідзе й ніколі я больш ня бачыў столькі ружаў на вуліцах гораду. А калі нехта зламаў галінку магноліі на калінінградзкай вуліцы, назаўтра пра гэта пісалі ўсе мясцовыя газэты.



Калінінград цяжка ўявіць бяз рыбных крамаў "Акіян" і "Дары мора", бяз порту, бяз пляжаў. Праўда, каб трапіць да мора, трэба хвілінаў 30–40 ехаць электрацягнікам у Зеленаградзк, Піянэрскі або Сьветлагорск. Ня ведаю, як цяпер, а ў тыя часы гэта была памежная зона, і, каб выехаць да мора, трэ было ў касе прад'яўляць пашпарт з калінінградзкай прапіскай. Аднак выконвалася гэта ня дужа строга: касірцы дастаткова было бачыць пашпарт, а правяраць прапіску не было калі – усе сьпяшаліся. У крайнім выпадку можна было папрасіць любога мясцовага жыхара набыць квіток. Ніхто не адмаўляў. На пляжы пра "зону" нагадваў вялікі шчыт з надпісам: "Не заплывайце за буйкі. Да Швэцыі ўсё адно далёка". З аднаго боку быццам і з гумарам напісана, а з другога – трохі крыўдна, бо ў кожным бачылі патэнцыйнага ўцекача.

Мінула ўжо 10 год, як я ня быў у Калінінградзе. Можа таму, што я бываў там толькі ўлетку, ён захаваўся ў маёй памяці як вельмі сьветлы, сонечны, радасны, сьвяточны горад. Горад, дзе заўсёды цьвітуць каштаны і ружы і па вуліцах шпацыруе салёны марскі вецер.

**Лявон Гуменьнікаў, Менск**

# Сяргей Пасько: “База рэспубліканцаў — прадпрымальнікі”



**Гутарка са старшынём Балтыйскае Рэспубліканскае партыі Сяргеем Паськом.**

**“НН”: Наколькі масавая калінінградзкая Рэспубліканская Партыя?**

**С.П.:** Масавая? Я б лепш не ўжываў гэтага слова. У нас каля 700 сяброў па ўсім краі, але актывістамі яны лічацца хіба намінальна. Насельніцтва яшчэ не гатовае прыняць нашыя ідэі.

**“НН”: Вы жадаеце стварыць новую краіну?**

**С.П.:** Мы дабіваемся не абсалютнай незалежнасьці, а патрабуем дзяржаўнага статусу Калінінградзкай вобласьці. Паводле канстытуцыі, Расея — фэдэрацыя. Статус суб'ектаў фэдэрацыі маюць толькі дзяржаўныя ўтварэньні — рэспублікі. Мы дамагаемся гэтага статусу, каб мець раўнапраўныя адносіны з Масквой. Фэдэральны цэнтар, антыканстытуцыйная ўладная вэртыкаль, якую будуе Пуцін, дыктуюць нам, як сябе паводзіць, каму, калі і колькі падаткаў плаціць. Калі мы атрымаем статус Рэспублікі, адразу ж падпішам новую дамову з Расеяй і ніколі больш не перадамо Маскве тых паўнамоцтваў, якія аддалі згодна з апошняй дамовай, падпісанай у 1996 г. нелегітымнымі прадстаўнікамі вобласьці.

**“НН”: Як вы ставіцеся да прыхільнікаў адраджэньня Ўсходняй Прусіі?**

**С.П.:** Нармалёва. Праўда, гэтую ідэю падтрымліваюць лічаныя адзінкі, палітычныя працэсы ў краі зусім не адэкватныя іхным патрабаваньням. Адраджэньне Ўсходняе Прусіі — прыватная ініцыятыва, ня больш за тое.

**“НН”: Вы лічыце неабходным пакрысе выходзіць з-пад патранажу Расеі й рухацца на Захад. Як далёка плянуеце зайсьці?**

**С.П.:** Мы дабіваемся асацыяванага сяброўства ў Эўразьвязе (на раўнапраўнае разьлічваць няма як). Гэтую ідэю падзяляе губэрнатар Калінінградзкай вобласьці і ледзьве не палова дэпутатаў абласной думы (астатнія лічаць, што эканамічнае становішча краю можна выправіць, калі ўдасканаліць закон пра свабодную эканамічную зону). Фракцыя Калінінградзкае думы “Саюз” рыхтуе глебу для правядзеньня ў лістападзе рэфэрэндуму пра далучэньне вобласьці да Эўразьвязу.

**“НН”: Ці разглядаецца магчымасьць далучэньня Калінінградзкае вобласьці да Нямеччыны?**

**С.П.:** Цяпер законы Нямеччыны на 80% пішуцца не Бундэстагам, а Эўрапарлямэнтам. Так што будзе досыць і таго, што мы ўступім у Эўразьвяз. Шмат кажуць пра нямецкі фінансавы ўплыў на Калінінград, але насамрэч у нашую эканоміку найбольш інвэстуе Літва.

**“НН”: Ці падтрымліваюць Вашую партыю калінінградзкія бізнэс-колы?**

**С.П.:** Ядро нашае партыі — калінінградзкія прадпрымальнікі. Інтэграцыя з Эўропай дапаможа ім зьменшыць выдаткі, спросьціць кантакты з заходнімі партнэрамі, пазбавіць ад непамерных падаткаў, што ідуць на крамлёўскія авантуры, кшталту вайны ў Чачэніі, — мы будзем самі вызначаць падатковую палітыку краю.

**“НН”: Ці будзе сталіца вобласьці насіць імя Калініна пасьля вашага прыходу да ўлады?**

**С.П.:** Ня будзе. Калінінград атрымае сваю гістарычную назву — Кёнігсбэрг.

**Гутарыў А.К.**



# Сьвятар перадусім

Працяг са старонкі 1.

Нарадзіўся Аляксандар Надсан у мястэчку Гарадзея, што пад Нясьвіжам. Бацька і маці ягоныя былі настаўнікамі, і хлопец зь дзяцінства размаўляў з маці па-француску (у часы ваеннага ліхалецьця юнаку, закінутаму на чужыну, прыдаліся гэтыя веды). Пасьля школы скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, дзе, як і бацька, вучыўся на настаўніка матэматыкі. Сам айцец кажа, што сэмінарыя дала яму "ня толькі грунтоўныя веды, але зрабіла пераканаыным беларусам на ўсё жыцьцё".

У час вайны, яшчэ падлеткам, Аляксандар узначаліў мясцовае аддзяленьне Саюзу Беларускае Моладзі. У 1944 г. Аляксандар, як шмат хто зь ягоных раўналеткаў, далучаецца да Беларускае Краёвае Абароны. Праз год ён будзе стаяць у ахове Другога ўсебеларускага кангрэсу ў Менску. Аляксандру не было яшчэ 18 гадоў, калі жаўнеры Беларускай Краёвай Абароны былі скіраваныя на Заходні фронт, у Францыю. Там ён зь сябрамі далучыўся да Руху Супраціўленьня. Пазьней Аляксандру давялося ваяваць у Італіі ў складзе арміі генэрала Андэрса, дзе ён быў паранены. Айцец мае ўзнагароды за змаганьне з фашызмам, але гаварыць пра гэта ня любіць, бо, зь ягоных словаў, "вайна — гэта нялюдзкае і страшнае".

Па вайне савецкая Беларусь, дзе разгарнуліся рэпрэсіі, была для яго закрытая. Айцец гаворыць цяпер з іроніяй: "У нас не было тады выбару: Ангельшчына або Беларусь. Мне даводзілася выбіраць Ангельшчыну або Салаўкі. Я падумаў, што ў Ангельшчыне будзе крыху выгадней".

У Брытаніі, дзе айцец апынуўся па вайне, ён за некалькі месяцаў самастойна авалодаў ангельскай мовай і паступіў у Лёнданскі ўнівэрсытэт на аддзяленьне матэматыкі. Якраз тады пачынае фармавацца айцова адкрытасьць да сьвету, да сусьветнае культуры, што надае ягонай унікальнай эрудыцыі эўрапейскі кшталт. Гады самаадукацыі далі яму грунтоўныя веды з сусьветнай гісторыі й культуры, веды, што і цяпер уражваюць ягоных суразмоўцаў.

У 1946 г. Аляксандар Надсан стаецца адным са стваральнікаў Згуртаваньня беларусаў Вялікае Брытаніі, найстарэйшай зь дзейных цяпер беларускіх арганізацыяў у замежжы. Таксама ён удзельнічае ў працы Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'яднаньня "Рунь", што гуртавала інтэлектуальную беларускую моладзь у Заходняй Эўропе й ЗША.

У 1947 г. у Лёндане ствараецца Беларуская каталіцкая місія. Будучы біскуп Часлаў Сіповіч, які стаяў ля яе вытокаў, стаўся для Аляксандра найбольшым духоўным аўтарытэтам і паўплываў на ягоны далейшы жыцьцёвы шлях. "Пад ягоным уплывам у мяне нарадзілася жаданьне прысьвяціць жыцьцё на службу Богу сярод свайго народу", — кажа айцец. Увосень 1953 г. А.Надсан едзе ў Рым, дзе праводзіць наступныя шэсьць гадоў у Грэцкай калегіі. У калегіі вучыліся румыны, італа-альбанцы, сырыйцы. Яны размаўлялі між сабою па-грэцку, ведалі італійскую, а ў Грыгарыянскім унівэрсытэце вучыліся на лаціне. Менавіта там айцец сутыкнуўся з разнастайнасьцю нацыянальных традыцыяў у Царкве. Ён казаў пасьля, як глыбока яго ўразіла тое, што студэнты зь іншых Цэркваў маглі пры нагодзе маліцца па-свойму. Для яго ж, беларуса, "сваёй" моваю набажэнства была царкоўнаславянская. З часу навучаньня ў Грэцкай калегіі вынес айцец думку пра пераклад усходніх літургічных тэкстаў з грэцкай мовы на беларускую — працу, якую ён уважае цяпер за найважнейшае зьдзяйсьненьне ў сваім жыцьці.

Высьвячаны на сьвятара ён быў 23 лістапада 1958 г. і ў наступным годзе вярнуўся ў Лёнданскую місію.

У 60-я місія ўтрымлівала Беларускую школу сьв.Кірылы Тураўскага, дзе вучыліся і жылі хлопчыкі зь беларускіх сем'яў з розных краінаў і розных веравызнаньняў. Для дзяцей гэта быў асяродак, дзе яны маглі пазнаёміцца з нацыянальнай літаратурай, гісторыяй, культурай. Айцец Аляксандар працаваў настаўнікам у гэтай школе, а ад верасьня 1966 г. быў ейным кіраўніком.

Сьвятарскае служэньне для айца заўсёды было зьвязанае з працаю дзеля захаваньня беларускае культуры. Таму і працуе ён актыўна ў складзе Ангельска-Беларускага таварыства, чытае культуразнаўчыя лекцыі, друкуецца ў пэрыядычных выданьнях, перадусім у "*Journal of Byelorussian Studies*" і ў адноўленым у Лёндане рэлігійным часопісе "Божым шляхам". Ён цікавіцца старадрукамі, скарыназнаўствам, робіць унікальную працу па дасьледаваньні і трансьлітарацыі Аль-Кітабаў.

У 1971 г. у Лёндане адкрываецца Беларуская бібліятэка імя Скарыны. Бібліятэчная калекцыя спачатку складалася з прыватных кнігазбораў трох сьвятароў — уладыкі Ч.Сіповіча, а.Л.Гарошкі і а.А.Надсана. Цяпер гэта сусьветна вядомы цэнтар, які валодае найбуйнейшым па-за межамі Бацькаўшчыны зборам беларусазнаўчай літаратуры, унікальнай калекцыяй старадрукаў і старажытных мапаў, багатым і дагэтуль мала дасьледаваным архівам. Сёлета, дарэчы, Скарынаўка сьвяткуе сваё 30-годзьдзе, да якога прымеркаваная канфэрэнцыя ў Лёндане "Роля беларускай дыяспары ў захаваньні й разьвіцьці беларускай культуры".

Усе гэтыя гады фонды бібліятэкі папаўняліся найперш стараньнямі айца Надсана. Ён выкарыстоўваў кожную магчымасьць, шукаючы рэдкія выданьні, рукапісы, езьдзіў на кніжныя аўкцыёны, у букіністычныя крамы па ўсёй Эўропе, зьбіраў кнігі сярод беларусаў дыяспары. Айцец са сьмехам распавядае, што быў у Монтэ-Карла, слаўным сваімі казыно, і шмат грошай там пакінуў. Быў жа ён там насамрэч на кніжным аўкцыёне і неблагі набытак зь яго прывёз для Скарынаўкі. Альбо яшчэ, як давялося яму ў аднаго нью-ёркскага беларуса цэлы дзень частавацца чымсьці моцным і брыдкім, каб назаўтра атрымаць ад яго "Гісторыю крыўскай кнігі" В.Ластоўскага.



ДЗЯНІС РАМАНЮК

Разам з Папам Рымскім Янам Паўлам II



Падчас набажэнства ў Менску

А яшчэ было навязаньне кантактаў зь дзяржаўнымі бібліятэкамі і ўстановамі культуры ў Беларусі, арганізацыя навуковых канфэрэнцыяў, выданьне рукапісаў з фонду бібліятэкі (у т.л. дзёньніка Казіміра Сваяка і рукапіснага паэтычнага зборніка Ларысы Геніюш).



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

З гуманітарнай дапамогай для чарнобыльцаў

Адначасова айцец робіць велізарную працу па перакладзе літургічных тэкстаў бізантыйскае традыцыі. Плён ягоных 20-гадовых высілкаў — гэта ўвесь корпус багаслужбаў надзвычайнае духоўнае і эстэтычнае вартасьці, цяпер даступны беларускім вернікам. Айцец не абмяжоўваецца перакладамі: разьвіваючы беларускую літургічную традыцыю, ён уводзіць ва ўжытак малітвы і акафісты Скарыны, сам піша тэксты (Служба аб памнажэньні любові, Службы да сьв.Эўфрасіньні Полацкае і да сьв.Кірылы Тураўскага і інш.). Асноўная частка гэтых тэкстаў падрыхтаваная цяпер да друку лёнданскім выдавецтвам "Божым шляхам".

Пасьля сьмерці біскупа Сіповіча а.Аляксандар робіцца рэктарам місіі ў Лёндане, а ў 1986 г. яго прызначаюць Апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў замежжа. Доўгі час ён самастойна выдаваў "Весьнік беларускага каталіцкага душпастырства". Двойчы тады ён аб'ехаў сьвет, адведваючы беларусаў ад Аўстраліі і Новае Зэляндыі да ЗША і Канады. Да апошняга часу вадзіў ён штогадовыя пілігрымкі да Крыжа беларускіх пакутнікаў, што ў Канадзе. На працягу некалькіх гадоў "Наша Ніва" зьмяшчае казаньні а.Аляксандра на Каляды і Вялікдзень, адрасаваныя беларусам усяго сьвету. У сталым сваім веку айцец рэгулярна бывае ў беларусаў розных веравызнаньняў ад Францыі да Амэрыкі, служыць набажэнствы, хрысьціць і вянчае, проста сустракаецца зь людзьмі — трымае іх разам. Разам зь Беларусяй і разам з Богам.

Калі зьнятая была жалезная заслона, айцец прыехаў на Беларусь — з дапамогаю для дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскае аварыі. Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, які айцец стварыў і ўзначаліў у Вялікабрытаніі, распачаў тады дастаўку лекаў у найбольш пацярпелыя раёны, ладзіў летнія адпачынкі для дзяцей у Ангельшчыне, Валіі і Ірляндыі.

У той свой прыезд зь вялікай радасьцю для сябе сутыкнуўся айцец зь першымі намаганьнямі адрадзіць Уніяцкую Царкву на Беларусі. 11 сакавіка 1990 г. ён адслужыў сьвятую Літургію за беларускі народ — першую каталіцкую службу ўсходняга абраду ў Менску ад часоў скасаваньня Уніі ў 1839 г. Сотні людзей прыйшлі на ягонае набажэнства і адчулі тады, што гэта — іхняя Царква. Царква зь беларускай моваю літургіі, Царква, дзе душы адгукаюцца на мудрыя і сьветлыя словы сьвятара. Пры ўсёй разнастайнасьці абавязкаў і пакліканьняў айца, пры ягонай неверагоднай заангажаванасьці ў сьвеце, сьвятарства для яго — ня роля, а тоеснасьць. "Я — сьвятар перадусім", — часта кажа ён пра сябе.

З адраджэньнем Грэка-Каталіцкае Царквы на Беларусі праца Лёнданскае місіі набыла новае значэньне: цяпер тут атрымліваюць тэалягічную адукацыю беларускія студэнты, запрошаныя айцом. Цяпер ёсьць надзея на працяг, на пераемнасьць пачатае колісь айцом справы.

На жаль, свой сёлетні юбілей айцец сустрэне на чужыне. Прыехаць у Беларусь яму, вольнаму чалавеку з вольнага сьвету, не дазваляе абсурдная вымога беларускіх уладаў, што тычыцца ўсіх замежных прадстаўнікоў неправаслаўных канфэсіяў: дзеля прыезду ў Беларусь ім неабходны дазвол Камітэту па справах рэлігіяў. Адпаведна, у Беларусі мы яго пабачым ня хутка. Але ўсё ж добра ведаць, што там, у Лёндане, у царкве Сьв.Пятра і Паўла, айцец асьвячае пачатак кожнага дня Боскай літургіяй па-беларуску і моліцца вось ужо колькі дзясяткаў гадоў "за краіну нашу Беларусь і за ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас".

**Караліна Мацкевіч, Ігар Іваноў**

Разам з мастаком Яўгенам Кулікам



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАЦАЎ АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА (СЬПІС НЯ ПОЎНЫ)

КНІГІ:

1. Сьвяты Кірыла Тураўскі. - Лёндан: Божым шляхам, 1968. - 111 с.
2. Наша вера: Кароткі катэхізм хрысьціянскай навукі для беларусаў-каталікоў. Estella (Nawarra), Царква ў Патрэбе. 1990. - 65 с.
3. Магдалена Радзівіл і Грэка-Каталіцкая Царква. Лёндан: Божым шляхам, 2001. - 44 с.
4. Друя і Грэка-Каталіцкая царква на Беларусі, 1924-1938. - Лёндан: Божым шляхам, 2001. - 64 с.
5. The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum, 1971-1981. - London, 1981. - 24 pages.

ПЕРАКЛАДЫ:

6. Боская літургія між сьвятымі айца нашага Яна Залатавуснага. Кніга для вернікаў // Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква сьв.апосталаў Пятра і Паўла ў Лёндане: Пераклад на бел. а.Аляксандра Надсана. Лёндан: Божым шляхам, 1991. - 44 с.
7. Акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы. Пераклад на бел. а.Аляксандра Надсана. Лёндан: Божым шляхам, 1992. - 15 с.
8. Беларускі царкоўны каляндар на 1994 г. Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква сьв.апосталаў Пятра і Паўла ў Лёндане: Уклад. а.Аляксандар Надсан. Лёндан: Божым шляхам, 1994. - 31 с.
9. Беларускі царкоўны каляндар (Дэканат Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы). Менск: Унія, 1995. Укладальнік а.Аляксандар Надсан. - 31 с.

ПУБЛІКАЦЫІ:

10. З-пад рэдактарскіх нажніцаў // На шляху. Бюлетэнь Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі - Лёндан, 1947. №4, С.12.
11. Куды вядзе нас навука // На шляху. - Лёндан, 1948. №1 (8), С.10.
12. Атамная энэргія // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1947. №3, С.4-5; №4, С.4; 1948. №5, С.7-8.
13. З навукі і тэхнікі // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1948. №4 (8), С.7-8.
14. У пошуках прычынаў крызысу//Беларус на чужыне. - Лёндан, 1948. №7 (11), С.5-6; №8 (12), С.3-4; №10 (14), С.3-4.
15. Гара парадзіла мыш // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1948. №7 (11), С.8.
16. Вольнасьць прэсы // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1948. №12 (16), С.1-2.
17. Перад новым этапам // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1949. №8 (32), С.3-5.
18. Аб хуліганстве // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1949. №8 (32), С.9.
19. Правы чалавека // Беларус на чужыне. - Лёндан, 1949. №10-11 (34-35), С.8-12.
20. Тыдзень беларускіх каталіцкіх інтэлектуалістаў // Божым шляхам. - Парыж, 1951. №43, С.10.
21. Сьв.Тамаш Мор // Божым шляхам. - Парыж, 1952. №46, С.10-12; №47, С.8-10; №48, С.8-11.
22. Да пытаньня рэлігіі // Божым шляхам. - Парыж, 1952. №48, С.12-14.
23. Другі тыдзень студыяў БАКА "Рунь" // Божым шляхам. - Парыж, 1952. №49, С.12-14.
24. Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР // Божым шляхам. - Парыж, 1952. №51, С.4-6.
25. Царкоўная еднасьць // Божым шляхам. - Парыж, 1953. №52, С.5-6.
26. Пачатак Марыйскага Году ў Рыме// Божым шляхам. - Парыж, 1953. №57, С.3-5.
27. Грэцкая Калегія ў Рыме і Беларусы// Божым шляхам. - Парыж, 1954. №58, С.11-13; №59, С.7-8.
28. Казаньне на 25-га Сакавіка// Божым шляхам. - Лёндан, 1964. №84, С.10-12.
29. Беларусы ў Грэцкай калегіі // Божым шляхам. - Лёндан, 1964. №87, С.5-7.
30. Сьпісак Беларускіх студэнтаў у Грэцкай калегіі // Божым шляхам. - Лёндан, 1964. №87, С.8-10.
31. Пазнаньне Бога // Божым шляхам. - Лёндан, 1965. №91, С.2.
32. Каляды і Багаяўленьне // Божым шляхам. - Лёндан, 1965. №93. С.4-5.
33. Сьвяты Кірыл Тураўскі // Божым шляхам. - Лёндан, 1966. №2 (95), С.4-9; №3 (96), С.2-7; №4 (97), С.3-7; №5 (98), С.3-9; №6 (99), С.5-7.
34. Цікавыя помнікі беларускага Рэлігійнага пісьменства XV ст. // Божым шляхам. - Лёндан, 1966. №3 (96), С.8-10.
35. Пяць гадоў Школы Сьв.Кірыла // Божым шляхам. - Лёндан, 1967. №1 (100), С.2-5.
36. Лаўрын Зізані // Божым шляхам. - Лёндан, 1967. №3 (102), С.3-6.
37. У Сьвятой зямлі // Божым шляхам. - Лёндан, 1967. №3 (102), С.9-11.
38. Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVII ст. // Божым шляхам. - Лёндан, 1968. №1 (106), С.1-5; №3 (108), С.3-7.
39. Малітаўнік Мамоніча 1601 г. // Божым шляхам. - Лёндан, 1970. №1 (118), С.6-12; №2 (119), С.5-6.
40. Беларускі рэлігійны твор канца XVIII ст. // Божым шляхам. - Лёндан, 1970. №5 (122), С.5-10.
41. Малітвы пры Сьвятой Літургіі // Божым шляхам. - Лёндан, 1970. №6 (123), С.5-9.
42. Кніга Скарыны ў Капэнгагэне // Божым шляхам. - Лёндан, 1971. №5 (128), С.9-11.
43. Рэцэнзія: Like Water, Like Fire. An Anthology of Byelorussian Poetry at 1828 to the Present Day. Translated by Vera Rich. London, 1971. // Божым шляхам. - Лёндан, 1971. №4 (127), С.7-8.
44. Падручнік Фёдарава і Скарына // Божым шляхам. - Лёндан, 1972. №5-6 (133-134), С.8-11.
45 Еўскі Буквар 1618 г. // Божым шля-

# Айцец

Ірына Дубянецкая

Я хачу, каб увесь Сусьвет сьвяткаваў юбілей айца Аляксандра разам са мною. Беларусы ўсіх кантынэнтаў, а разам зь імі й усе тыя кантынэнты, і ўсе паралелі ды мэрыдыяны, усе анёлы, усе сілы нябёсныя, зямныя й падземныя, усе лесуны ды русалкі... ой, выбачаюся, само зь языку сарвалася, айцец можа зьнелюбіць... (я шэптам кажу: сьвяткуйце айцовы ўрадзіны русалкі зь лесунамі ды ўсялякімі стварэньнямі бачнымі й нябачнымі, знанымі й нязнанымі, хай ніхто не застанецца ўбаку ў гэтае сьвята). Я хачу, каб увесь сьвет падзяліў маю бязьмежную любоў ды пашану да гэтага чалавека, маю праменную радасьць ад таго, што ён ёсьць, што ён між нас і што ён стаўся адным з найбольш значных ды пазнавальных арыенціраў майго жыцьця. І што ніхто так яго ня ведае, ня цэніць і ня любіць, як я (я не кажу, што нехта любіць яго менш, проста любоў ніколі не паўтараецца).

Ня фыркайце, айцец, калі ласка, на гэты мой выплеск урачыстасьці. Вам у вочы я скажу нешта зусім іншае, нешта невыразнае прамямлю, і мы хутка зьменім тэму — пачнем паважна разважаць пра лёсы Царквы й Бацькаўшчыны, пра тое, як нам лепш уладкаваць сьвет, не забудземся і на маіх угарытаў... Але зараз я кажу не да Вас. Даруйце, але я *дзялюся Вамі.*

(*Don't worry*, я ня буду казаць пра Вашыя стаптаныя чаравікі і пра тое, як Вы незадаволена бурчыце, калі мы нагадваем Вам, што час купляць іншыя — маўляў, ёсьць рэчы важнейшыя за гэткія «дудкі». Я ня буду нават казаць, як Вы вылоўліваеце з рондалю ды шпурляеце аб сьцяну макароніну: ці зварылася? А потым па-хлапечы заліваецеся рогатам з нэафіцкага зьдзіўленьня кагосьці са шматлікіх гасьцей Вашае надзвычай гасьціннае хаты ці зь Юльчынага абурэньня, што яна, маўляў, толькі памыла сьцены на кухні. Ні пра тое, як Вы ўпарцііцеся, калі мы Вас гонім да лекара, бо ў Вас ізноў баліць калена або апанаваў страшэнны грып, і мы дзелімся з Вамі антыбіётыкамі, што нам панапрапісвалі з тае ж прычыны. Ні пра Вашыя нэрваваньні перад сьвятамі, калі Вам здаецца, што ніхто нічога ня робіць, а трэба й капліцу прыбраць, і набожнікі там памяняць, і сьпевы падрыхтаваць, і сьвяточны стол дагледзець — і Вы бегаеце з хаты ў хату, каб нас актывізаваць, але толькі дадаеце да агульнае нэрвознасьці, бо мы ўсе таксама хочам, каб сьвята адбылося як найлепей. Ні пра тое, як Вы балюча перажываеце, калі Вам ды нашай агульнай справе здраджваюць тыя, каго Вы любілі і каму аддавалі сябе бяз рэшты. Ні пра тое, як Вы шчыра цешыліся, калі мяне пакусалі пчолы і мой твар набыў разьдзьмута-марсіянскія абрысы — бо ўрэшце! нейкая ўцямная хвароба, а ня тыя дзівосы, якім не маглі даць рады ангельскія лекары, — і купілялі мне лёды, каб зьняць жар. Ні пра тое, як Вы падымаецеся а пятай раніцы — ці дождж, ці слота, — каб вывесьці на прагулку нашага няпэўных крывей сабаку Бэна, так што Бэн часам нават рашуча адмаўляецца ісьці з Вамі навонкі, бо, маўляў, добры гаспадар у такое надвор'е сабаку з хаты ня выганіць. Ня буду, хоць усё гэта ёсьць часткаю нялёгкага шчасьця жыць з Вамі — шчасьця, якое пакінула незьнішчальны адбітак у маёй душы, дапамагло ёй умацавацца, распрастацца, вызначыцца, самасфармулявацца. Вы мне потым выкажаце ўсё, што Вы думаеце з нагоды гэтае пісаніны, а пакуль я буду прамаўляць да іншых).


ДЗЯНІС РАМАНЮК

Дык вось, сьвяткуй, Сусьвеце! Цешцеся, людцы добрыя, і весяліцеся! Усьміхніся, краіна Беларусь, і ты, паэце, кінь вечны плач свой аб старонцы. Бо мы сьвяткуем сёньня ўрадзіны — *трычвэрцістагодзьдзевы* юбілей — вашага сына, вашага айца, вашага сьвятара, вашага стваральніка, вашага нястомнага працаўніка й вернага слугі — Аляксандра Надсана.

Такія людзі нараджаюцца рэдка. Ці, можа, такімі людзьмі рэдка становяцца? Бо каму хочацца жыць самотна на чужыне, пахаваць усіх сваіх паплечнікаў, працягваць адному вялікую справу, што пачыналі гуртам, адному прымаць рашэньні й несьці за іх адказнасьць, без асаблівага спадзяваньня ўбачыць калі-небудзь плён сваіх высілкаў, узвальваць на сябе ўсё новыя й новая абавязкі й ня мець ні ўпынку ні спачынку? У каго ёсьць унутраныя сілы гадамі й гадамі штодня аднаму правіць службу Божую, маліцца за Беларусь, нават калі пакідае надзея і здаецца, што ўсе намаганьні — намарна, бадзяцца бясконца па ўсім сьвеце, дзе толькі ёсьць беларусы, ды абслугоўваць іхныя духоўныя патрэбы, перакладаць самому літургічныя тэксты з грэцкае мовы на беларускую (праца, што па сілах хіба салідным камісіям), калекцыянаваць унікальную на Захадзе беларускую бібліятэку, шукаць грошы на дапамогу чарнобыльскім дзеткам, самому здабываць неабходныя лекі і самому ж — наколькі магчыма — вазіць караваны ў Беларусь, займацца навуковай працай, ладзіць канфэрэнцыі... І пры ўсім гэтым даглядаць царкву, бібліятэку, гаспадарку на чатыры хаты, з усімі іхнымі «цякучымі» дахамі, ды яшчэ прымаць бясконцых гасьцей з усяго сьвету — кожнага прывеціць, кожнаму дапамагчы, кожнаму дагадзіць?

Ня ведаю, ці хочацца гэта айцу Аляксандру і ці ёсьць у яго тыя сілы, але ён жыве менавіта так. Ды яшчэ набраў на сваю галаву студэнтаў, усё з той самай мэтаю: дапамагчы. Дапамагчы людзям здабыць багаслоўскую адукацыю, каб ізноў-такі дапамагчы Беларусі, беларускай Царкве й беларускай культуры. І ён не абавязаны рабіць усё, што ён робіць, ён ня мае з усяго гэтага аніякае выгады, толькі адны клопаты, бо чым больш ты робіш, тым больш ад цябе патрабуюць і — што самае прыкрае — тым больш табой незадаволеныя. А сам ён кажа, што расчараваньняў, бадай, выпала ў жыцьці больш, як здабыткаў. І часамі так хочацца ўсё кінуць ды паехаць дзесь не па справах, а каб адпачыць, каб перавесьці дух. Але набягаюць новыя клопаты, але клічуць узваленыя на сябе абавязкі, але чакаюць людзі дапамогі, але... Вось і цяпер ён нават ня будзе ў хаце на свой юбілей, бо ізноў — чарговая паездка, чарговы клопат.

Калі ён бывае ў Беларусі, то, здаецца, мае па пятнаццаць сустрэчаў на дзень. Ён усім патрэбны, усюды жаданы, людзі імкнуцца да яго па падтрымку, дапамогу, спагаду, параду. Людзі чакаюць на ягоны прыезд, каб менавіта ён пахрысьціў іхных дзяцей. Ягоныя службы зьбіраюць найбольшую колькасьць людзей, прычым самых розных вераў, бо ніхто так прыгожа ня служыць, як ён, бо ніхто не гаворыць такіх глыбокіх казаньняў, як ён, дый проста таму, што яго тут любяць. І ён з усімі сустракаецца, размаўляе, жартуе. А потым вяртаецца дахаты і на пытаньне «ну як Вы, ойчанька?» ціха адказвае: «Стаміўся...»

Ён не шукае свайго, і адзіная ўзнагарода, якую мае, — але хіба найлепшая з усіх — людзкая любоў. Адно з найглыбейшых ягоных уражаньняў — першы прыезд у Беларусь у 1990-м. Ён тады ведаў у Менску трох чалавек: Адама Мальдзіса, айца Яна Матусевіча (бо абодва пабывалі ў яго ў Лёндане) ды — па перапісцы — Алеся Гуркова. Ён спадзяваўся, што яго сустрэне на вакзале айцец Ян. Ягоны цягнік прыходзіў дзесь перад пятай раніцы — халоднай сакавіцкай раніцы. Ён выйшаў з вагону і пабачыў поўны пэрон народу, многія з сымбалямі Чарнобыльскага Шляху, і доўга ня мог уцяміць, што ўвесь гэты натоўп сустракаў яго.

Ягоная слава бегла перад ім. Многія тагачасныя «нацыяналісты» даведаліся пра яго зь нейкіх брудных прапагандысцкіх брашурак, на якія так шчодрыя былі 70-я ды асабліва 80-я гады. Асабліва адна была папулярнаю, з рамантычнай назваю «Агрэсары ў мяккіх тапачках». Бо яна давала найбольш інфармацыі пра дзейнасьць эміграцыі. Так што ўся гэтая «анты»прапаганда толькі дапамагла людзям уведаць, што недзе ў шырокім сьвеце ёсьць тыя, каму баліць Беларусь, хто робіць усё магчымае для нацыянальнае справы. І ёсьць такі Надсан, які бач-ты нацыяналістычную бібліятэку ў Брытаніі трымае, каб смушчаць ангельцаў ды тлуміць мазгі залётным беларусам, а сам — людзі добрыя! — сьвятар, ды яшчэ — о, жахі! — уніят. Больш антысавецкую постаць нельга было нават уявіць, што й выклікала да яго асаблівую цікавасьць. А я сама ў тыя гады, калі выкладала студэнтам Скарыну, казала, што ва ўсёй Беларусі няма аніводнае бібліятэкі ў імя Скарыны (а ўсё больш то Ленін то Пушкін), затое ёсьць у Лёндане, і стварыў яе Аляксандар Надсан. І ці магла я тады ўявіць, што буду жыць колькі гадоў у гэтай самай лёнданскай Скарынаўцы і што гэты самы чалавек станецца такой велізарнай часткаю майго жыцьця?

Як мы тады на яго чакалі, купка маладзёнаў, што саматужна ўзяліся адраджаць беларускае Ўніяцтва і, натуральна, мелі яго за найвышэйшы аўтарытэт. Як хваляваліся, калі ён пагадзіўся з намі сустрэцца (хацеў на гадзінку, а праседзеў паўдня). Мы паказвалі яму свае напрацоўкі для першага нумару «Уніі», задавалі безьліч пытаньняў, частавалі яго, а самі не маглі нічога праглынуць ад хваляваньня, і толькі адзін Андрусь Абламейка спакойна пад'ядаў цукеркі ды слухаў нашыя гутаркі. (Тады ж ён упершыню й натхніўся сьвятарствам, і вось ужо, дзякуй Богу, парах — наступнік айца Яна Матусевіча на Менскай парафіі Сьвятога Язэпа). А потым, улетку таго ж 90-га, у другі ягоны прыезд... Гэта адно з маіх незабыўных уражаньняў ад айца. Мы з Каралінай Мацкевіч ня толькі ўлезьлі ў — на мой цяперашні розум — непад'ёмную справу выданьня часопісу (насуперак усяму й усім, без аніякае базы, бяз грошай), але й саманадзейна задумалі вечарыну-прэзэнтацыю ў Доме Літаратара. І вось за два дні да вечарыны, калі мы толькі-толькі адправілі ледзь дароблены, склееены ўручную макет у Латвію, і не было ніякае пэўнасьці, што часопіс будзе гатовы, і адзіная дзяўчына, што ўзялася рыхтаваць вечарыну, раптам патрапіла ў лякарню, і ніхто больш ня ведаў сцэнару, а назаўтра яна прызначыла адзіную рэпэтыцыю, і часу не заставалася, каб паведаміць людзям пра вечарыну, і было няясна, ці варта паведамляць наагул, і мы абедзьве ў поўным зашкале ўжо проста раўлі ад перанапругі й роспачы — мы паехалі да айца Аляксандра ды выклалі яму з усіх кішэняў нашыя беды. Ён нас выслухаў і сказаў: «Вы ўсё зрабілі, што маглі?» — «Усё». — «Ну, дык пакіньце штонебудзь і на Бога. Вы папрацавалі, хай цяпер і Ён папрацуе». Як мяне ўразілі тыя словы! Айцец нечакана вярнуў мяне ў Сапраўднасьць. Дакладней, тая Сапраўднасьць упершыню ясна паўстала перада мною. Мы не былі адны. Ніколі не былі. Бог рабіў разам з намі. Праз нас. Таму мы й вытрымалі гэты неверагодны час. І адзінае, што было трэба зараз, — давер. І мы, насуперак відавочна правальнай рэчаіснасьці, неяк супакоіліся. Айцец меў рацыю: Бог сапраўды «папрацаваў». Назаўтра прывезьлі сьвежааддрукаваны часопчык, і прыйшлі на рэпэтыцыю ўдзельнікі вечарыны, і склаўся сцэнар, і людзі неяк даведаліся пра імпрэзу, і быў поўны аншляг, і ўсе выступалі надзвычай добра, а мы самі вялі праграму, пішучы сабе словы, пакуль на сцэне сьпявалі або чыталі, і ўсё было цудоўна, і айцец сказаў выдатную прамову, і ўся бітком набітая заля была ўзрушаная імпрэзай.

А неўзабаве айцец узяў нас з Каралінай да сябе, вучыцца. І жыцьцё павярнулася на сто восемдзесят. І пачаўся новы час, пад знакам Айца. Мы пабачылі на свае вочы, якая гэта тытанічная праца — захоўваць беларускасьць у самых розных ейных праявах, і ня толькі захоўваць, але й падтрымліваць і разьвіваць. І заставацца адкрытым да любое іншасьці, і аддаваць сябе ня мераючы ўсім людзям, да чыіх жыцьцяў ты дакрануўся. І мне думаецца, што й Беларусь жыве пад знакам Айца. І людзтва. Хай сабе ня толькі яго, але й яго таксама. Ён і такія, як ён, — трымаюць сьвет. Ён наш скарб, наш гонар, нашая радасьць. Але звычайна мы гэтага не ўсьведамляем. Мы пачынаем цаніць людзей, калі ўжо запозна, калі ўжо не аддзячыш. І таму я кажу цяпер усім, хто чуе: радуйцеся, бо айцец Аляксандар з намі. Ён сьвятарыць нам, ён працуе для нас, ён захоўвае нам — разам з намі — Беларусь. Сьвяткуйце яго, бо сьвяткуючы яго, мы сьвяткуем сябе.

Будзьце, ойчанька, стакрот блаславёным, і блаславёнай будзь Ваша праца.

**ІРЫНА ДУБЯНЕЦКАЯ — магістар і ліцэнзіят багаслоўя, дактарантка Лёванскага ўнівэрсітэту (Бэльгія), займаецца біблістыкай, вывучае старажытныя мовы і цывілізацыі Блізкага Ўсходу (гэбрайскую, арамейскую, фінікійскую, угарыйскую, маабіцкую). Дачка Міхала Дубянецкага, які ў 70—80-х быў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і стаяў ля вытокаў Беларускага Народнага Фронту. Заснавальніца часопісу «Унія» (1990).**



хам. - Лёндан, 1973. №1 (135), С.3-9.
46. За два гады (Крыху пра Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане) // Божым шляхам. - Лёндан, 1973. №2 (136), С.10-13.
47. Новыя набыткі Беларускай Бібліятэкі // Божым шляхам. - Лёндан, 1975. №3-4 (145-146), С.4-7.
48. Беларускія Буквары XVII ст. // Божым шляхам. - Лёндан, 1973. №4 (138), С.5-11.
49. Пяць гадоў Бібліятэкі імя Францішка Скарыны // Божым шляхам. - Лёндан, 1976. №1-2 (147-148), С.13-15.
50. Кірыл і яго век (Кірыла Тураўскі) // Крыніца, 1994, №7. С.8-13.
51. Сьвяты Кірыла Тураўскі. // Спадчына. 1996. №1. С.260-287; №2. С.266-287.
52. Беларусы ў Грэцкай Калегіі. (Аб падрыхтоўцы манахаў-беларусаў у вышэйшых навучальных установах Эўропы ў XVI—XVII ст.) // Крыніца, 1996, №4, С.82-86.
53. Заходняя літаратура на Беларусі ў XV—XVII ст. // Спадчына, 1997, №6, С.73-90.
54. Магдалена Радзівілава і Грэка-Каталіцкая царква. // Спадчына, 2000, №5-6. С.152-162.
55. Прыцягваючы справу сьвятых апосталаў (Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў). // Кантакты і дыялёгі. 2000, №11-12. С.20-29.
56. Таямніца брыльянтавага кальле Магдалены Радзівіл // Наша Ніва, 2000. № 49-50.
57. Western Influences in Byelorussian Literature // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.I, No.2. London, 1966. P.80-91.
58. Spiritual Writing of St.Cyril of Turau // Eastern Churches Review, 1967—1968. Vol. I, No 4, S.347-358.
59. The Memoirs of Theodor Jeŭlašeŭski, Assessor of Navahradak. Translated and annotated by Alexander Nadson // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.I, No. 4. London, 1968. P.269-348.
60. The Life of Saint Euphrosyne of Polack. Translated and annotated by Alexander Nadson // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.II, No. 1. London, 1969. P.3-24.
61. Meredith-Owens G.M. and Nadson A. The Byelorussian Tartars and their Writing // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.II, No. 2. London, 1970. P.141-176.
62. Skaryna's Prayer Book // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.II, No. 4. London, 1972. P.339-358.
63. Some Old and Rare Books in the Francis Skaryna Library in London // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.III, No. 4. London, 1976. P.364-369.
64. Schools in Byelorussian in the Late 16th and Early 17th Centuries // The Slavonic and East European the Mediaval study group, 1978, #1.
65. Byelorussian Studies. - Cambridge, 1978. P. 937-948. // The Year's Work in Modern Language Studies. Vol. 39 (1977), 1978.
66. Byelorussian Studies. - Cambridge, 1979. P. 1042-1056. // The Year's Work in Modern Language Studies. Vol. 40 (1978), 1979.
67. Byelorussian Studies. - Cambridge, 1980. P. 1099-1140. // The Year's Work in Modern Language Studies. Vol. 41 (1979), 1980.
68. Bishop Ceslau Sipovich (1914-1981). // The Journal of Byelorussian Studies. Vol.V, No. 1. London, 1981. P.5-13.

**Падрыхтаваў Алег Гардзіенка**

# Між сваіх людзей

**Для мяне "НН", якую выпадкова ўпершыню прачытаў паўгоду таму, сталася сустрэчай з добрым, разумным і разважлівым чалавекам. Разважаю пасьля кожнай сустрэчы з гэтым добрым Чалавекам, успамінаю жыцьцёвыя абставіны...**

Жыцьцё маё пачыналася, як і ў тысячаў беларусаў, што нарадзіліся ў 30-я. Галоднае і халоднае ваеннае дзяцінства з адной парай кірзачоў на трох, з балотнай вадой і праснакамі зь перамерзлай бульбы, сабранай зь веснавых палеткаў, з сушаным гарохам у драўляным цэбры на зіму і першым у жыцьці кавалкам хлеба са збожжа, употайкі ад усіх выпеставанага бабуляй на лясной палянцы, зь зямлянкай у тры накаты, побач са спаленай немцамі вёскай Прусавічы, што недалёка ад Плешчаніц. А потым — беларуская сямігодка ў мястэчку Будслаў, нейкім цудам не спаленым і не разрабаваным ні немцамі, ні партызанамі. Там і пачалося выхаваньне "савецкага" чалавека.

Дырэктар школы і большасьць настаўнікаў — расейцы, больш-менш адукаваныя людзі, якія па разнарадцы ўладаў або ратуючыся ад разрухі й голаду знайшлі тут прытулак ды кавалак хлеба. Мясцовыя жыхары першы час зь недаверам і нават варожасьцю ставіліся да ўсіх уцекачоў з усходніх раёнаў, нават да сваякоў. Але калектывізацыя зрабіла ўсіх роўнымі ў галечы.

У першыя ж дні калектывізацыі па начах пачалі зьнікаць самыя адукаваныя і працавітыя мужыкі і нават цэлыя сем'і, часам арышты адбываліся ўдзень, на вачах у людзей. Праз колькі год два-тры тыя мужыкі вярнуліся, а зьнікла ж больш за дзясятак.

У школе ў першыя пасьляваенныя гады панаваў дух казармы, а са стварэньнем піянэрскай і камсамольскай арганізацыяў зьявіўся і ўжо ніколі не зьнікаў акцэнт на расейскамоўе.

Маёй першай настаўніцай жыцьця была родная бабуля, якая пасьпела яшчэ патрымаць у руках сваю праўнучку, маю старэйшую дачку. Яна, мая бабулька-гаротніца, выратавала сваіх дзяцей і ўнукаў ад холаду і голаду вайны, яна прышчапіла нам любоў да працы. З ранку да цямна працавала яна ў калгасе і на беднай хатняй гаспадарцы. А доўгімі восеньскімі і зімовымі вечарамі пры лучыне і пад ціхае рыпеньне кроснаў мы, ейныя дзеці і ўнукі, слухалі няхітрыя беларускія казкі, ня надта вясёлыя размовы старэйшых пра жыцьцё-быцьцё... Мы слухалі першародную беларускую мову, бабуліну мову.

Маёй першай школьнай настаўніцай была Паўліна Мядзёлка — прыгожы і сьветлы чалавек. Яе вуснамі ўпершыню прагучэў для нас Купала і Колас, Багдановіч і Пушкін. "Новая зямля" і *"Евгений Онегин"* ад пачатку і да канца за некалькі школьных гадзінаў былі прачытаныя па памяці з уласьцівым ёй артыстызмам. Гадзінамі, хаваючыся, глядзеў я і слухаў рэпэтыцыі местачковай самадзейнасьці, дзе спн.Паўліна кіравала хорам-а-капэля з расейскім, польскім і беларускім рэпэртуарам, ставіла "Паўлінку", "Хто сьмяецца апошнім", *"На всякого мудреца довольно простоты"*, шмат іншага. Местачковы клюб ніколі не зьмяшчаў ахвотных паглядзець-паслухаць канцэрты й спэктаклі, пакуль была жывая спн.Паўліна. Значна пазьней, з выпадковых публікацыяў, даведаўся аб яе жыцьці і лёсе больш...

Засталіся ў памяці настаўнікі-беларусы, тутэйшыя маладыя людзі, якія пасьля навучаньня ў пэдагагічных установах вярнуліся ў родныя мясьціны і ўсё сваё жыцьцё працавалі ў мясцовай школе. Увасабленьне сьціпласьці і стрыманасьці, разумніца і прыгажуня, матэматык Ганна Хацяновіч, якая першы час міла чырванела ў складаных школьных абставінах; настаўнік ангельскай мовы Леў Яновіч — узор сапраўднага мужчыны, што ні сабе, ні навакольным не дараваў расхлябанасьці й свавольства. Або старэйшыя настаўнікі: кумір і страх старшаклясьнікаў Стэфанія Мацяшак; мудры і гумарны географ Генадзь Фрыд, урокі



якога заўжды праходзілі лёгка і весела. Настаўнікі вучылі нас, дзяцей вайны, паважаць старэйшых, жанчынаў, незалежна ад веку, асабістым прыкладам выхоўвалі працавітасьць і пачуцьцё адказнасьці за свае ўчынкі. Яны былі для нас узорам адукаванасьці, інтэлігентнасьці і чалавечай годнасьці.

З настаўнікаў-расейцаў запомніўся толькі Паўлаў па мянушцы Скам (ад манеры казаць "скажем") — першы пасьляваенны дырэктар школы, які вечарамі нападпітку наводзіў "порядок" вакол школы і клюбу з дапамогай рэвальвэра на скураным раменьчыку, якім карыстаўся як зручнай жалязякай; ды настаўнік фізычнага выхаваньня, галоўнымі пэдагагічнымі сродкамі якога былі афіцэрская дзяга ды расейскія брудныя мацюкі. Ягоныя заняткі па кулявой стральбе зводзіліся да зьнішчэньня воронаў ды галубоў на вежах касьцёлу, калі там пачыналася набажэнства.

Зь цікавасьцю слухаў я на прасторным ганку сельскай крамы вячэрнюю гамонку і жарты вяскоўцаў, закіды Паўліны Мядзёлкі свайму сябру па культурна-асьветніцкай працы, майму бацьку, з амаль заўсёдным рэфрэнам: "Алесь! Ня пі!". А бацька, не знаходзячы разумных аргумэнтаў, каб выпраўдацца, адбіваўся словамі Сьцяпана Крыніцкага з "Паўлінкі". І гэта былі такія міні-спэктаклі! Ніякая другая мова, акрамя беларускай, не змагла б перадаць той гумар, тую мудрасьць і годнасьць тутэйшых людзей.

А крыху пазьней, калі я вучыўся ў Менску, бацька "прадставіў" мяне сваім сябрам па Купалаўскім тэатры — Глебу Глебаву і Ўладзімеру Дзядзюшцы. Асабіста на мне ўвага спыненая не была, бо калі пасьля сяброўскіх абдымкаў і пацалункаў у цесную каморку пад лесьвіцай тэатру пачаў зьбірацца вольны ад спэктаклю народ і Ўладзімер загрымеў нечым шкляным, Глеб Глебаў мякка сказаў: "Ідзі, хлопчык, у залю, там ужо пачынаецца..." З таго часу Купалаўскі тэатар на доўгія гады стаўся мне родным і быў найлепшай беларускай школай...

У сталыя гады, калі ўжо і думаў па-расейску і па жыцьцёвых абставінах больш за дзесяць гадоў жыў і працаваў у Прыбалтыцы, часта з задавальненьнем слухаў радыётэатральныя пастаноўкі да болю роднымі галасамі Глебава, Дзядзюшкі, Ржэцкай. Аднойчы ў часе рэдкага адпачынку ў Крыме, на канцэрце "Верасоў", калі гучала іхная візытоўка пра Беларусь, вымушаны быў нізка схіліцца ў крэсьле ды закрыць твар далонямі: зашчымела сэрца, вільготнымі зрабіліся вочы... Жонка і дачка доўга дапытваліся, што здарылася, а я нічога ня змог адказаць. Урэшце кінуў гадамі наладжаны дабрабыт і вярнуўся на Радзіму.

Пачуцьцё сораму і няпаўнавартасьці я як беларус перажыў гадоў пятнаццаць таму, калі на будоўлі, дзе працаваў, маладая інтэлігентная жанчына на чыстай беларускай мове запытала мяне аб тэрміне заканчэньня будаўнічых работ. Прывітаўся і адказаў таксама па-беларуску, але потым гамонка, якая па маёй ініцыятыве расьцягнулася амаль на гадзіну, далася мне цяжка: падсьвядомасьць працавала па-расейску. Мой моўны "спатыкач" быў успрыняты суразмоўніцай тактоўна і спакойна. Не памятаю зьместу размовы, але яе форма — размова беларусаў на сваёй роднай мове — засталася ў памяці як сустрэча зь нечым радасным і сьветлым.

Грэлі душу размовы з маленькімі ўнукамі, якія пачалі хадзіць у беларускі садок. Але нядоўга гэта было, яны ўжо "рускія".

Амаль сваім чалавекам стаўся Станіслаў Шушкевіч, якога колькі разоў раніцай сустракаў, ідучы на тралейбусны прыпынак: ён тады яшчэ жыў у нашым мікраёне. Хапала сьмеласьці толькі вітацца, а як хацелася пагаманіць! Наколькі ён быў годным дзяржаўным кіраўніком, настолькі ж і слабым палітыкам для таго складанага часу і сярод той кампартсавецкай зграі, што гуртавалася каля ўлады. Цяжка і сумна было бачыць, як яго, сумленнага і інтэлігентнага чалавека, скублі і елі "народныя" дэпутаты, а найбольш імпэтна і прыкра гэта рабіў цяперашні "народны прэзыдэнт".

Сваімі былі амаль усе людзі, якія ў лістападзе 96-га зьбіраліся на плошчы Незалежнасьці, дзе побач, у Доме Ўраду, вырашаўся лёс Радзімы, але былі падман і здрада...

Цяжка, а потым агідна стала слухаць і глядзець беларускае радыё і тэлебачаньне. Учорашнія вясковыя дзяўчаты і хлопцы ад мікрафона і тэлекамэры рабіліся кавалёвымі, чайкамі, зімоўскімі, дудзінавымі, азаронкамі. Калі тое, што яны агучваюць, на самой справе іхныя перакананьні, то ўражаньне такое, быццам гэтыя людзі дасёньня ня ведаюць аб краху Савецкай імпэрыі.

Брыдка ад таго, што ўчорашнія беларусы пад ціскам пятай калёны здрадзілі сваёй мове, што ўсё гэта робіцца па правілах гульні ў адны вароты, што за мой кошт гэты бруд і мана ўзьдзейнічаюць на сьвядомасьць маіх унукаў і лічацца дзяржаўнай ідэалёгіяй.

Не зусім разумею моўную палітыку некаторых апазыцыйных газэтаў, у першую чаргу "Нашай свабоды" і "Народнай волі", дзе амаль палова матэрыялаў друкуецца па-расейску. Такая пазыцыя не падобная да выхаваньня нацыянальнай сьвядомасьці чытача-беларуса — у гэтай найважнейшай на сёньняшні дзень справе першым ёсьць слова.

Шкада кіраўнікоў прадпрыемстваў і чыноўнікаў, якія слупянеюць і губляюць мову перад мікрафонам ці тэлекамэрай: ня ведаюць ні сваёй, ні расейскай: "Со сто сімнаццаць паросят за нехваткі фондав пагібло сорок одін". Узялі б прыклад з Лукашэнкі, які пару год таму, калі яго дапяклі "жэншчынамі", запрасіў спэцыялістаў, пазаймаўся шыпячымі і сьвісьцячымі, мяккімі і цьвёрдымі і зараз прамаўляе ня горш за "выдатніка" расейскай мовы Дудзінава. Але гавары ён хоць па-ангельску, нешта ня тое робіцца з намі, калі адзін чалавек вырашае лад жыцьця і лёс беларусаў, добрай палове зь якіх сорамна прызнацца сабе, хто мы такія і чыім розумам жывем. Другая палова пра тое ня думае, чарка ды шкварка — кола іхных інтарэсаў...

Паважаная рэдакцыя! Зь нецярплівасьцю чакаю новай сустрэчы з Добрым Чалавекам. Жадаю, каб прысьніўся прэзыдэнт Беларусі, якім можна было б ганарыцца... Чакаю вяртаньня на Радзіму Васіля Быкава, каб сустрэць і папрасіць прабачэньня... Хачу зразумець, чаму ў Японіі не існуе таварыства японскай мовы... Як навучыць другую палову беларусаў думаць... Чаму млеюць жанчыны ад Адама Глёбуса, і, наагул, хто ён такі... Хацелася б зь першага чытаньня "ўехаць" у стасункі Граждана, Шніпа і сабакі. Захапляе аптымізм і актыўная жыцьцёвая пазыцыя Маленькай Вар'яткі, разам з тым падставаў для аптымізму настолькі мала, што рэальна самому зрабіцца вар'ятам...

Мае прывітаньні і віншаваньні сонейку Касі!

Зь дзесяцігодзьдзем адраджэньня, "Наша Ніва"!

**Уладзімер Лубнеўскі,**
**Менск**

## Адрасы беларускіх школаў у Менску

| Раён гораду | Школы | Адрас |
|---|---|---|
| Заводзкі | 68 | зав.Ахоцкі, 17 |
| Заводзкі | Гімназія №14 | Васьняцова, 10 |
| Заводзкі | 131 | Убарэвіча, 74 |
| Кастрычніцкі | 89 | Пухавіцкая, 21 |
| Кастрычніцкі | 110 | Берасьцейская, 66 |
| Ленінскі | 2 | пр.Ракасоўскага, 93 |
| Маскоўскі | 60 | Лібкнэхта, 82 |
| Партызанскі | 72 | Халмагорская, 59 |
| Першамайскі | Гімназія №9 | Сядых, 10 |
| Першамайскі | 190 | Нікіфарава, 19 |
| Фрунзэнскі | Гімназія №4 | Кунцаўшчына, 18 |

## Адрасы школаў зь беларускамоўнымі клясамі

| Раён гораду | Школы | Адрас |
|---|---|---|
| Заводзкі | 131 | Убарэвіча, 74 |
| | 210 | Бачылы, 13 |
| Кастрычніцкі | 1 | Чкалава, 3а |
| | 11 | Асаналіева, 18 |
| | 30 | Жукоўскага, 11 |
| | 52 | Кіжаватава, 70 |
| | 71 | Каржанеўскага, 29 |
| | 90 | Быхаўская, 14 |
| | 97 | Казінца, 118 |
| | 168 | Жукоўскага, 10, к.5 |
| Ленінскі | 15 | Якубава, 12 |
| | 40 | Фабрычная, 27 |
| Маскоўскі | 3 | 3-ці Чыгуначны, 16 |
| | 145 | Алібегава, 5 |
| | 168 | Рафіева, 7 |
| Партызанскі | 86 | Чапаева, 11 |
| | 108 | Уральская, 15 |
| Першамайскі | 70 | Каліноўскага, 34 |
| | 84 | Панамарова, 11 |
| | 115 | Кедышкі, 13-а |
| | 137 | Каліноўскага, 50,к.2 |
| | 177 | Шугаева, 19, к.1 |
| | 184 | Шугаева, 15, к.1 |
| | 197 | Гарадзецкая, 14 |
| Савецкі | 23 | пр.Скарыны, 45 |
| | 66 | Шырокая, 30 |
| | 147 | Мірашнічэнкі, 35 |
| | 187 | Куйбышава, 65 |
| Фрунзэнскі | 38 | Бельскага, 59-а |
| | 81 | Альшэўскага, 70 |
| | 96 | Пушкіна, 12 |
| | 138 | Адоеўскага, 34 |
| | 176 | Адзінцова, 89 |
| | 211 | Шаранговіча, 42 |
| Цэнтральны | 35 | Старавіленскі тракт, 30 |
| | 37 | Азізава, 6 |
| | 104 | Шчадрына, 46-а |

# Спэцыяльная мэта беларусаў

**Аляксандар Надсан. Друя і Грэка-Каталіцкая Царква на Беларусі, 1924—1938. Лёндан: Божым шляхам, 2001.**

Друйскі кляштар марыянаў — адзін зь нешматлікіх асяродкаў беларускага руху ў Заходняй Беларусі ў 1920—30-х — на старонках беларускага друку ўжо заняў пачэснае месца. Адзіны беларускі кляштар "пры Польшчы", беларускія казаньні, прыгатаваньне Уніі на беларускія землі... Ці сапраўды ўсё гэта было? Аляксандар Надсан на падставе дакумэнтаў, што зьберагаюцца ў лёнданскай Бібліятэцы імя Скарыны, адказвае ў сваёй брашуры на шмат якія гістарычныя пытаньні. Як сьведчаць дакумэнты, духоўнае начальства і ў Рыме, і ў Вільні разглядала беларускіх ксяндзоў, што выступалі за беларускі па духу і мове касьцёл у Заходняй Беларусі як сродак навяртаньня ў каталіцызм... Расеі. Гэта была "спэцыяльная мэта" беларусаў, пра якую яны самі дазналіся апошнімі.




Друйскі кляштар заснаваў у 1924 г. віленскі біскуп Юры Матулевіч, літовец па нацыянальнасьці. Меркаваньне аўтара, што Матулевіч сустрэўся ўпершыню зь беларускім адраджэнскім рухам у Вільні ў 1918 г. (як стаўся біскупам), можна аспрэчыць. З 1907 г. Матулевіч быў прафэсарам Пецярбурскай духоўнай акадэміі, з 1909 г. — віцэ-рэктарам. У той самы час прафэсарам катэдры старажытных моваў там быў Баніслаў Эпімах-Шыпіла, вакол якога круцілася ўся беларуская справа ў Пецярбургу. Ягоныя студэнты А.Цікота (першы беларускі марыянін з 1921 г.) і іншыя заснавалі беларускі гурток, да якога пазьней далучыліся А.Станкевіч, В.Шутовіч і шмат хто яшчэ. З 1912 г. працаваў у Пецярбургу Ф.Абрантовіч, прафэсар філязофіі ў акадэміі ў 1914—1918 г. Тамсама вучыўся А.Неманцэвіч, з 1940 г. экзарх Беларускага Грэка-Каталіцкага Экзархату. Узгаданыя толькі тыя прозьвішчы, якія шмат разоў сустракаюцца ў брашуры а.Надсана. Выглядае на тое, што пра беларускія праблемы Матулевіч ведаў яшчэ да рэвалюцыі 1917 г.

У 1923 г. Матулевіч пісаў у Рым — прасіў дазволу заснаваць Друйскі кляштар і адзначаў, што задачай беларускіх марыянаў ёсьць навяртаньне ў унію праваслаўных беларусаў. Матулевіч дапускаў магчымасьць выкарыстаньня ў будучым беларускіх марыянаў за мяжой, у СССР ("Расеі"), але зноў жа сярод праваслаўных беларусаў. Вядома, што Рымскі Папа адказаў Матулевічу лістамі 23 ліпеня і 10 жніўня 1923 г.; гаворка ў іх ішла аб працы друйскіх марыянаў выключна сярод беларусаў.

Не ўпершыню беларусаў ашукалі. Скончым словамі а.Надсана: для беларускіх сьвятароў-марыянаў "Унія была ня толькі справаю таго ці іншага абраду,.. але жыцьцёвай патрэбай для ацаленьня ранаў душы Беларускага народу". Але зь імі ніхто не лічыўся. Праца а.Надсана яшчэ раз вучыць ня верыць словам быццам бы добразычліўцаў беларускага народу.

**Валеры Пазьнякоў**



**Руслан Равяка**

# 4 м²

*апавяданьне*

Зьмітрок апошнім часам ня мог доўга знаходзіцца ў прыбіральні. У звычайнай, якую мае большасьць з нас, тых, хто жыве ў шэрых шматпавярхоўках.

Раней штодзень Зьміцер залазіў туды, набраўшы стосы газэтаў, лістоў, дакумэнтаў, і працаваў там гадзінамі.

Шмат хто зь пісьменьнікаў, журналістаў, навукоўцаў дый проста заможных людзей мае асобныя працоўныя пакоі, з прыгожымі вялізнымі дубовымі сталамі. Зьміцер жыў у маленькай аднапакаёўцы, таму працоўным пакоем для яго была прыбіральня.

Я часта заходжу да яго. Раней амаль заўсёды адчыняла дзьверы Зьмітракова жонка — у баваўняным халаце на 4 гузікі. Яна прапаноўвала пачакаць у адзіным пакоі кватэры, а сама грукала ў дзьверы ўборнай: "Дзіма, выхадзі! К цебе Руслан прышоў!" Пасьля таксама ішла ў пакой, і мне даводзілася, яшчэ некалькі хвілінаў пазіраць ці на яе, ці на актораў лацінаамэрыканскіх сэрыялаў у старэнькім "Віцязі".

Гэтак мы разам чакалі, пакуль Зьміцер падсумуе нейкія свае вынікі і выйдзе да нас, пад гукі галасна-бурлівага бачка.

Урэшце, жонцы надакучыла чакаць — і яна зьбегла з падобным да лацінаамэрыканца цыганом. Нягледзячы на тое, што кватэра пуставала, Зьміцер працягваў працаваць у сваім "пакойчыку". Ён пачаў там-сям друкавацца, пра яго згадвалі добрым словам крытыкі. Але пра тое, дзе нараджаюцца ягоныя творы, ведаў толькі я. Зьміцер быў у той час апантаны ідэяй кнігі, якую зьбіраўся назваць "Думкі на ўнітазе".

— Разумееш! — даводзіў ён мне за чаркаю. — У нашым імклівым жыцьці, у сучасным перанаселена-урбанізаваным сьвеце, чалавек знаходзіцца пад ціскам грамадзтва. Чужаніцы атачаюць асобу паўсюль — на вуліцы, на працы, у грамадзкім транспарце, у сям'і. Гэта выклікае нэрвовыя зрывы, занядбаньне Божага дару, дадзенага кожнаму з нас. Грамадзтва аплятае чалавека з маленства, зь дзіцячага садка. Таму адзінае месца, дзе асоба застаецца сам-насам са сваімі думкамі — гэта прыбіральня. Тамака чалавек адпачывае ад тысячаў іншых. 100 грамаў адзіноты, 4 м² — вось што зараз патрэбна большасьці з нас.

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

— Добра, — кульнуўшы 100 грамаў размовы, кажу я. — Аднак, чаму толькі прыбіральня, а як жа ж адзіночка ў турме? Дарэчы, чаму зараз, калі кватэра твая належыць толькі табе, ты ўсё адно праседжваеш шмат часу там? — Я тыцнуў пальцам у бок дзьвярэй з чырвонай плястыкавай выявай сымбалю Брусэлю.

— У адзіночках сядзелі толькі за царом. Таму розныя там рэвалюцыянэры й леніны здолелі распрацаваць пляны рэалізацыі сваіх ідэяў. А як прыйшлі да ўлады, яны ж ня кідалі сваіх ворагаў у адзіночкі. Кажаш, шмат садзілі й месца не было? Не, браце, яны рабілі гэта адмыслова, каб не пакідаць асобу сам-насам! І сёньня тое самае, нават сьмяротнікаў трымаюць па двое. А наконт мяне.... Мабыць звычка, якую ня маю жаданьня зьмяняць.

Прыкладна празь месяц Зьмітрок пачаў выскокваць з прыбіральні праз колькі хвілін. Пасьля зьнерывавана соўгаўся па кватэры, лаяўся, кляў усё й усіх ды выпіваў чарку гарэлкі. Аднак супакаеньне міналася хутка. Зноў ён, вывароччваючы вантробы, пачынаў кідаць праклёны, зноў куляў чарку і да вечара напіваўся, як каморнік.

Праца спынілася, лясънуліся пад халеру ўсе тэрміны ў рэдакцыі. Рэдактар неаднаразова папярэджваў...

Адбылося ўсё гэта, з-за нейкага суседа наверсе, што прыдбаў котку. Калі тая пачала марцаваць, немым голасам заклікаючы да сябе катоў, гаспадар зачыніў яе ў прыбіральні. Енкі й лямант, падобны да плачу немаўляці, апанавлі "стаяк", не даючы Зьмітру плённа працаваць. Акустыка ў савецкіх шматпавярхоўках дай божа якая...

Праз тыдзень енкі сьціхлі. Зьмітрок з падвойным імпэтам узяўся за працу. Аднак празь якіх паўмесяца котка загуляла зноў. Божае стварэньне жадала пладзіцца й памнажацца, насуперак усялякім умовам гарадзкога жыцьця.

Мы пілі на кухні ў Зьмітра пад аддаленыя енкі, што несьліся з выцягу. Мой сябра прызнаўся, што толькі нядаўна зразумеў Глёбуса зь ягонай "Гісторыяй ката".

Я прапанаваў яму схадзіць наверх — пагутарыць з гаспадаром коткі, хай звозяць яе да жывёльнага лекара. У найгоршым выпадку — даць грошай на апэрацыю.

Зьмітрок сабраўся быў адразу цягнуцца на размову, але я намовіў яго зрабіць гэта на цьвярозую галаву.

Назаўтра Зьміцер падняўся наверх, націснуў званок. Дзьверы адчыніла даўганогая маладзіца. Далей усё адбылося, як у дрэнных, але папулярных раманах...

Празь месяц, калі мой сябра ўваходзіў у ЗАГС, я быў побач у якасьці сьведкі. Свае кватэры маладыя зьмянілі на двухпакаёўку. Зьміцер кінуў пісаць і пачаў уласную справу, каб забясьпечыць сям'ю. Цяпер ён мае свой асобны дом, жонку, двух дзяцей і котку. Дзеці ходзяць у добрую школу, жонка працуе дырэктарам нейкай кампаніі. Зьміцер цяпер затрымліваецца ў прыбіральні толькі па патрэбе ці каб пералічыць грошы, схаваныя ад жонкі. Часу на іншае ўжо бракуе.

Котка жыве дагэтуль, штокварталь прыводзіць па колькі кацянятаў, якіх раздаюць сябрам, а лішкі топяць. Гэтая котка вельмі разумная — ня драпае мэблі, не кусае дзяцей, ня лётае па хаце, сама ходзіць у прыбіральню.

Пакуль дома нікога няма, яна сядзіць на ўнітазе, глядзіць у прастору сваімі блакітнымі вачыма й аб нечым думае. Пісаць котка ня ўмее...

**5-9.06.2001**

## Дзе варта быць

### Эўрафутбол

**9 жніўня тры беларускія клюбы ("Белшына", БАТЭ і "Шахцёр") стартуюць у кваліфікацыйным раўндзе Кубку ЎЭФА.** Дома ў гэты дзень гуляе толькі "Шахцёр". Праўда, прымаць ЦСКА з Сафіі ён будзе не ў сваім Салігорску, а ў Менску, на стадыёне "Дынама". Пачатак а 19-й.

### Зьезд Партыі Працы

**8 жніўня адбудзецца зьезд Партыі Працы.** Іншы раз за падобнымі мерапрыемствамі цікава паназіраць, асабліва калі ўлічыць, што гэтая палітычная сіла стаіць за Ганчарыкам. Адбудзецца форум на 2-м паверсе хмарачосу Фэдэрацыі прафсаюзаў на вул.Мельнікайтэ ў Менску. Пачатак аб 11-й.

### Графіці ў Гомлі

**11—12 жніўня ў Гомлі Моладзевы Цэнтар "Гарт" ладзіць конкурс графіці.** Імпрэза будзе адбывацца на працягу двух дзён з 12 да 15-й пад вокнамі гатэлю "Турыст" (вул.Савецкая, 87).

### Пазытыўны альбом

**Выйшаў зборнік моднай музыкі "Беларускі TURBO-MIXэR".** Гэта кампіляцыя альтэрнатыўнай танцавальнай беларуска-, расейска-, ангельскамоўнай музыкі нашай краіны. У праекце бяруць удзел NRM, Long Play, Хлоп-Ч, Нео, Чехов, Палац, прадстаўленыя кампазыцыі з альбому "Я нарадзіўся тут". Прэзэнтацыя 9 жніўня з 19-й да 22-й на адкрытай пляцоўцы парку Чалюскінцаў.

*Пра цікавыя мерапрыемствы, што маюць адбыцца ў вашых мясьцінах, паведамляйце на адрас dzie@tut.by*

**Дзяніс Носаў**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

У.Арлоў. **Сны імпэратара:** Апавяданьні, аповесьці, эсэ. - Менск: Мастацкая літаратура, 2001. - 383 с. - (Беларуская проза XX ст.) - Наклад 4000 ас. ISBN 985-02-0500-8

В.Орлов, Г.Саганович. **Десять веков белорусской истории (862—1918)**: События. Даты. Иллюстрации. - Вільня: Наша Будучыня, 2001. - 223 с.: іл. - Наклад 5000 ас. ISBN 9986-9229-5-3




*Адразу дзьве кнігі Ўладзімера Арлова выйшлі адначасна ў выдавецтвах Вільні й Менску. Гэта расейскамоўнае выданьне кнігі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", якую Ў.Арлоў напісаў разам з Генадзем Сагановічам, і кніга гістарычнае прозы "Сны імпэратара", якой У.Арлоў прабіў мур дзяржаўнага выдавецтва "Мастацкая літаратура". У.Арлоў падрыхтаваў яшчэ адну кнігу прозы - "Homo viator", але, як сказаў нам аўтар, дзяржаўнае выдавецтва наўрад ці наважыцца яе выдаць. Кнігу мяркуюць выпусьціць сёлета ў выдавецтве "Наша Ніва" ў Вільні. Неўзабаве, як задэкляраваў У.Арлоў, зьявіцца й кніга ягоных новых вершаў. У.Арлоў мяркуе, што новыя вершы ёсьць "адзнакаю таго, што нешта вельмі істотнае мяняецца ў атмасфэры нашае краіны, што зьяўляецца сапраўды сьвежы подых калі ня зьменаў, то магчымасьці гэтых зьменаў".*

В.Рагаўцоў. **Практыкум па гісторыі агульнага мовазнаўства**: Дапаможнік. - Менск: Унівэрсытэцкае, 2001. - 184 с. - Наклад 3000 ас. ISBN 985-09-0390-2

*Зьмешчаныя ўрыўкі з працаў мовазнаўцаў В.Гумбальдта, А.Патабні, І.Бадуэна дэ Куртэнэ, П.Фартунатава ды інш. У "Папярэдніх заўвагах" акрэсьленыя асноўныя кірункі дзейнасьці лінгвістаў, іхныя погляды і ўнёсак у разьвіцьцё навукі. Каштуе 1,9 т.р.*

М.Багдановіч. **Поўны збор твораў у 3 тамох**. **Т.1**: Вершы, паэмы, пераклады, насьледаваньні, чарнавыя накіды / 2-е выд. - Менск: Беларуская навука, 2001. - 752 с. - Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0446-7

*Першы том каштуе 4,3 т.р., усе тры разам - крыху больш за 10 т.р.*

В.Бандарчык, В.Бялявіна, Г.Касьпяровіч ды інш. **Беларусы**. **Т.4. Вытокі й этнічнае разьвіцьцё** / Рэд. калегія: В.Бандарчык ды інш. - Менск: Беларуская навука, 2001. - 433 с.: іл. - Наклад 1050 ас. ISBN 985-08-0423-8

*Кніга асьвятляе фармаваньне беларускае нацыі на грунце канцэпцыі трыадзінага ўсходнеславянскага этнасу. У кнізе шмат моўных памылак. Каштуе 4 т.р.*

Л.Лыч. **Беларуская ідэя ў постацях і зьдзяйсьненьнях**. - Менск: Athenaeum, 2001. - 80 с. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-6374-13-8

*Аўтар асьвятляе працэсы народзінаў і пашырэньня беларускае нацыянальнае ідэі.*

И.Мартыненко. **Законодательство об охране историко-культурного наследия и прокурорский надзор за его исполнением**. - Менск: Тесей, 2001. - 192 с. - Наклад 500 ас. ISBN 985-463-019-6

*Першы дапаможнік-даведнік у сфэры аховы помнікаў гісторыі й культуры; зьмешчаныя ўзоры патрэбных у гэтай справе дакумэнтаў. Прадаецца ў краме "Акадэмкніга" за 4,5 т.р.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# Цэпэліны над Нараччу

**У мінулы чацьвер у мястэчку Нарач Вялейскага раёну прыемная мабілізацыйная кампанія ў складзе Касі Камоцкай, гурту "Новае Неба" й барда па мянушцы Чыканас зладзіла канцэрт пад лёзунгам "Верасень, піва, Беларусь".**

Імпрэза прайшла ў мясцовым Доме культуры. Гледачоў сабралася чалавек 300, збольшага моладзь — кожны дзясяты жыхар пасёлку. Кася й "Новае Неба" выканалі самыя лепшыя свае песьні. Асабліва ўразілі маладзёнаў "Малітва за Беларусь" ды "Мая краіна". Нікога не пакінуў абыякавым і гіт Чыканаса "Хімія". Вітай Шаркоўскі зладзіў віктарыну з гісторыі Беларусі, адорваючы пераможцаў кашулькамі з выявай сонейка, запісамі "Новага Неба", асадкамі й каляндарыкамі. За ўсім гэтым напружана назіраў нарачанскі ўчастковы, які пасьля абвінаваціў Вітая ў выкрыкваньні "Жыве Беларусь!". Той патлумачыў, што крычаў "Восень, піва, Беларусь!" – "Но мы жа знаем, што ў Вас у галаве!" – парыраваў ахоўнік парадку ды пайшоў прэч. Пасьля канцэрту музыкаў запрасілі ў госьці Ірына й Алег Ганчарыкі, якія накрылі багаты стол са сьвечкамі ў альтанцы над рэчкаю Нарач. Ганчарыкі – мясцовыя інтэлігенты, якія ўжо адчулі на сабе цяжар цязкоўства з адзіным кандыдатам. Пасьля вячэры й купаньня ў рацэ музыкі ад'ехалі ў Менск.

Першы канцэрт гэтае кампаніі адбыўся ў Любані ў гэткай самай прыязнай атмасфэры. У глыбінцы жыве шмат шляхетных і сьціплых сем'яў, якія любяць беларускае й працуюць для яго. Наступныя канцэрты "пад знакам сонейка" пройдуць на Камянеччыне й Століншчыне.

**Сьведка**

Канстатацыі

# Жыцьцё

Сяргей Абламейка

Дзе б вы ні спыніліся, вы заўсёды станеце ў некага на дарозе.

Сэнс і бессэнсоўнасьць жыцьця злучаюцца ў боль па ім.

Трагічнага ў нашым жыцьці значна больш, чым мы ад яго чакаем і гатовыя прыняць.

Як добра магло б скласьціся нашае жыцьцё, калі б мы яшчэ дзецьмі ведалі, што людзі ня толькі памыляюцца, але й ня хочуць нічога ведаць аб гэтым. І якімі разумнымі мы былі б, калі б загадзя ведалі, што людзей ня толькі ня трэба клікаць пад свае сьцягі, але й самім ня трэба ставацца пад чыесьці...

Добра было б, каб мы яшчэ ў маладосьці разумелі, што да нас нікому няма справы. А калі і ёсьць, дык часьцей для таго, каб зрабіць сваю справу за наш кошт.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Чым менш будзем спадзявацца ад жыцьця, тым большым уявіцца тое, што ад яго атрымаем.

У кожнага з нас — свае ўзьлёты. І ва ўсіх — адна памылка: мы чакаем вяршыні тады, калі стаім на ёй...

Перш чым выказаць сваю думку, добра падумайце, ці сапраўды цікавяцца вашым меркаваньнем.

Нехта нечага ўсё жыцьцё хоча, а нехта гэта ўсё жыцьцё робіць. Розьніца.

Дабрыня да патрэбных людзей прыносіць страты.

Часьцей пытайце сябе, што застанецца па вас пасьля сьмерці. Гэта дапаможа вам пазбавіцца ад некаторых жарсьцяў і надасьць вашаму жыцьцю новы сэнс.

Ня ўсе ведаюць, куды ісьці. Таму тыя, хто ведае, — карысныя для іншых. Бяда ў тым, што і першым, і другім уласьціва памыляцца: адзін не туды вядзе, другі не за тым ідзе.

Як ні пераймайся, што выбраць сёньня, заўтра ўсё адно пашкадуеш аб зробленым выбары.

Умацоўвацца трэба не для таго, каб быць мацнейшым за ўсіх, але для таго, каб у патрэбным месцы і часе стаць мацнейшым за астатніх.

Той, хто не ўважае сябе больш вартым за іншых, лягчэй стрывае перамогу менш вартага.

Не забывайце пра сябе. Асабліва тады, калі з усіх бакоў вас да гэтага заахвочваюць тыя, хто не забывае пра сябе.

Мала хто хоча задаволіцца малым, але большасьці — давядзецца.

## Прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Вітаем Барыса Тумара**, зычым яму зрабіць хоць бы частку таго, што зрабілі для Беларусі Гілевіч і Бураўкін. Прадстаўнікі пакаленьня 80—90-х

**Юля!** Віншую цябе з Днём народзінаў. Ты самая прыгожая. Андрэй

### вокны, дзьверы

**Філёнчатыя дзьверы**, драўляныя вокны са шклопакетам. Вырабляем, ставім, гарантуем якасьць. Т.: 247-98-31

### ідэі

**Бо Бог адзін** і адзін пасярэднік між Богам і людзьмі – чалавек Хрыстос Ісус, што аддаў Сябе за ўсіх. 1 Цім. 2, 5

**Пакайцеся,** ды няхай кожны з Вас ахрысьціцца ў імя Ісуса Хрыста дзеля адпушчэньня грахоў. Дзеян. 2, 38

**Чорны Вой**, ты ведаеш Errare humanum est. Можа, хопіць крыўдаваць. Amo te. Nirvana

**"Хай кожны маскоўскі** халуй – гэта ваш гаспадар, ды толькі ці варта пра гэта натхнёна сьпяваць?" А.Мельнікаў

**Не правы чалавека** галоўнае для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае "правоў чалавека" пад акупацыяй. Андрусь Мазька

**Кірыла, Антосю...** Хто там яшчэ? 11 жніўня – 50 дзён бяз музыкі й кампутара. Гэта рэальна! The Дурная Галава

**Беларускі Вызвольны Рух** – альтэрнатыва расейскай акупацыі і палітыцы нацыянальнай здрады. Андрусь Мазька

**Апамятайцеся**, удзельнікі незаконных выбараў. Вы ўсе будзеце прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці, нават калі вас – мільёны. Уладзімер Аляксандраў

**Усім, хто прызнаў** Канстытуцыю-96, ЦВК, Лукашэнку, выбары-2001 – вечны праклён і вечная ганьба. Уладзімер Аляксандраў

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя "Край". Пэйджэр: (8-017) 249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com. Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

### кантакты

**Аднадумцы-нацыяналісты!** Манархічная Партыя Беларусаў чакае Вашых званкоў з 14-й да 16-й. Т.: 254-86-12

**Запрашаем наведаць** сайт беларускіх нацыяналістаў: www.spa-kraj.org

### кнігі, музыка

**Беларускую Біблію**, Эвангельле, духоўную літаратуру шукаю. Магчымы абмен. Т.: 226-42-63

**Прадам астралягічныя кнігі** 90-х (Глоба, Крывавяз, Раманаў). Т.: (0152) 31-89-07

**Замаўляйце і чытайце** "Голас Краю" — газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі: 220037, Менск, а/с 49

### праца

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана. Могуць усе. Ад Вас каперта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### фундатар

**Шукаю фундатара** на запіс бардаўскіх песень. Беларускі авангард. Дашлю чарнавы варыянт. Т.: (0225) 58-16-89

НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон

Водгукі

## Маланкаадвод ці маланкапрыймач?

**Каб засьцерагчы свой дом аб перуноў, трэба мець громаадвод ці, правільней, маланкаадвод. На жаль, нашмат лягчэй змайстраваць "маланкапрыймач". Аб чым і сьведчыць матэрыял, зьмешчаны ў "НН" ад 30 ліпеня 2001 г.** Справа ў тым, што калі маланка трапляе ў маланкаадвод, гэта — няштатная сытуацыя. Маланкаадвод для таго і прызначаны, каб "адводзіць" маланку, разраджаючы атмасфэрную электрычнасьць ня "гучным" іскравым разрадам, а ціхім каронным. Электрычнасьць проста "сьцякае" з вастрыя маланкаадводу.

Толькі на канцы вастрыя ўтвараецца неабходны патэнцыял (нагадаю, што звыклае нам напружаньне — гэта розьнасьць патэнцыялаў). Калі ж вастрыё прытупіць, напрыклад, шарыкам, пятлёй і г.д., гаспадар можа быць упэўнены: маланка ў ягоную хату будзе трапляць рэгулярна (на тое й "маланкапрыймач"). Так што ня ўсім энцыкляпэдыям трэба давяраць.

**Аляксандар Батура, в.Садкі (Капыльшчына)**

## Ня трэба песьняў

**У "НН" ад 25 чэрвеня Ігар Лялькоў, аўтар артыкулу "Адвечная песьня", піша пра першыя крокі пасьляваеннай беларускай эміграцыі.** Кажа пра ейныя намеры, цяжкасьці ды заадно пераконвае чытачоў "НН" ды ўвесь сьвет у няздатнасьці беларусаў да творчага арганізацыйнага жыцьця, няздатнасьці нашай эміграцыі дараўняць эміграцыям палякаў, балтаў, украінцаў.

У 1948 г. беларуская эміграцыя толькі пачыналася. Не было яшчэ беларускіх нацыянальных арганізацыяў, апрача "Хаўрусу" ў Францыі, створанага старой беларускай эміграцыяй (Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі згуртавалі вакол сябе беларускіх работнікаў, выдавалі газэту) ды Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Першы Агульны Зьезд якога адбыўся ў студзені 1947 г. На ім беларускія дзеячы-незалежнікі Францыі й Англіі думалі пра шляхі арганізацыі жыцьця ўсяе беларускае эміграцыі. Для гэтага трэба было арганізаваць зьезд прадстаўнікоў яе па магчымасьці з усіх куткоў сьвету. І ўжо сама задума Сусьветнага Зьезду беларускай эміграцыі і, тым больш, зьдзяйсьненьне яе было пазытыўным, правільным, нават неабходным крокам. Другім пазытывам Першага Сусьветнага зьезду беларускай эміграцыі было абмеркаваньне й апрацоўка галоўнага ідэалягічнага й практычнага напрамку дзеяньня для ўсяе незалежніцкае беларускае эміграцыі, пададзенага ў пастановах-рэзалюцыях зьезду.

І няпраўда, што Зьезд быў "няўдалай спробай аб'яднаньня паваеннай беларускай эміграцыі". Зьезд такіх заданьняў перад сабой ня ставіў. Ды што значыць "аб'яднаць"?! Ці можна, прыкладам, аб'яднаць тых, хто за незалежнасьць Беларусі, з тымі, хто супраць незалежнасьці, а за ўлучэньне Беларусі ў Расею?

І ня ставіў сабе Першы Сусьветны зьезд беларускай эміграцыі заданьня "дагнаць і перагнаць Амэрыку" – дараўняць эміграцыям палякаў, балтаў ды ўкраінцаў.

Запачаткаваны Зьездам Фонд 25 Сакавіка існуе па сёньня й фінансуе дзейнасьць Рады й Ураду БНР.

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

## Паштовая скрынка



**Ганьне С. з Койданава.** Гановэрскі адрас Разанава калі й ведаюць, дык у ПЭН-Цэнтры. Т.: (017) 213-34-61.

**Міколу Д. зь Менску.** Мы ня можам з Вамі пагадзіцца. Вашая пазыцыя яскрава антысэміцкая.

**Зьмітру Л. зь Менску, Сяргею П. з Барысава, Аляксандру Б. з Садкоў.** Пішучы сваю "Беларусь праз сто гадоў" ня варта надаваць гэтульki ўвагі рэчам агульным. Лепш засяродзьцеся на прыватнасьцях. Усе мы, беларускія патрыёты, ведаем, якая мова й сымболіка павінны быць у нашай дзяржавы, а вось паспрабуйце ўявіць, якая праз сто гадоў будзе архітэктура вашага места ці вёскі, або чым людзі будуць харчавацца, або як будуць бавіць вольны час... Бо надакучыла ўжо чытаць пра перападзелы сьвету, Расеі ды глябальныя катаклізмы.

**Уладзіславу Ж. зь Менску.** Спартовага часопісу на беларускай мове пакуль што, на жаль, няма.



**Літаратура – гэта думка вольнага чалавека, — так сказаў Ян Пятроўскі.**
**З Архіву Супольнасьці Літвы.**


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| намесьніца гал.рэдактара | Сьвятлана Курс |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| заснавальнік і выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**



6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 5106.
Нумар падпісаны ў друк 5.08.2001.
Замова № 4392.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а